# Жыцьцё дзяцей за межамі.

## Як выхоўваюць дзяцей у народных школах.

У Бэрлінскай 244-ай школе адбылося наступнае: 9-гадовы хлопчык Ганс прыехаў са сваімі бацькамі ў Бэрлін і бацька аддаў яго вучыцца ў 244 сьвецкую школу. Ганс быў сяромянны, ціхі хлопчык, які лёгка паддаваўся ўплыву таварышоў. Аднаго разу настаўніца (якую хлопцы ненавідзелі) вышла з клясы і пакінула ў шафе грошы. У дзяцей зьявілася жаданьне наладзіць гасьцяваньне на гэтыя грошы...

Справа хутка выясьнілася, і Ганс быў абвінавачаны ў кражы. Ганс вельмі хутка пакаяўся аб учынку і цьвёрда абяцаў, што ніколі больш ня будзе красьці, але настаўніца адмовілася пакінуць хлопчыка ў школе і выказалася за тое, каб аддаць Ганса ў папраўчы дом.

З гэтага часу пачаліся пакуты беднага хлопчыка. Настаўніца забараніла ўсім дзецям гаварыць і гуляць з Гансам. Хлопчык адчуваў сябе ў школе дрэнна, і яго прыводзілі туды сілай. Аднойчы Ганс прапаў; двое сутак ён ня прыходзіў дадому. Нарэшце, яго знайшлі, і, пагаварыўшы з урачом, бацька паслаў Ганса для папраўкі ў вясковую школу з інтэрнатам. Хлопчык вёў сябе там вельмі добра, за ім не наглядалася ніводнага дрэннага ўчынку. Ён быў лепшым вучнем, і нават бацька яго быў вызвален ад платы за вучэньне. Але хлопчыку было там сумна і прышлося ўзяць яго дадому. Зноў пачаліся яго мукі. Выдаючы адметкі, настаўніца Цымер дала Гансу наступную характарыстыку: „злодзей, вельмі неахайны, гультай“. Хлопчых засумаваў. Настаўнікі абыходзіліся з ім вельмі дрэнна.

Адзін раз, у часе шуму ў клясе, настаўнік ударыў Ганса і піхнуў яго гэтак моцна, што сапсаваў яму вока, і хлопчык захварэў.

Ганс зрабіў дрэнны учынак. Але ніхто з настаўнікаў не паклапаціўся аб яго перавыхаваньні. У хлопчыка зусім адбілі ахвоту хадзіць у школу і вучыцца.

## Мы сьвяткуем не X-годзьдзе рэспублікі, а XI-годзьдзе Кастрычніка.

У кастрычніку гэтага году ў Чэха-Славаччыне сьвяткавалася дзесяцігодзьдзе Рэспублікі. Арганізоўваліся дэманстрацыі школьнікаў. Настаўнікі прымушаюць дзяцей прыносіць у школу грошы, якія яны зьбіраюць для факелаў і транспарантаў, патрэбных у часе дэманстрацыі. Рабочыя бацькі абураны гэтым, у шмат якіх газэтах зьяўляюцца іх протэсты.

У газэце чэха-славацкіх піонэраў „Чырвоны Барабаншчык“ зьяўляюцца шмат допісаў дзяцей аб школе. Яны пішуць, што ня гледзячы на тое, што ўжо прашло 10 год з дню заснаваньня Рэспублікі, у школе нічога не зьмянілася. У невялічкай клясе сядзіць па 80—100 вучняў. Духата. Займацца цяжка. Па клясе ходзіць настаўнік з палкай. На сьцяне вісяць абразы. Вельмі часта на ўрокі прыходзіць поп, які сочыць за тым, каб настаўнік не гаварыў чаго-небудзь антырэлігійнага. Часта школа зьмяшчаецца ў такіх будынках, якія зусім не прыстасаваны до ўмоў школы. Бывае, што школа зьмяшчаецца ў будынках паліцэйскага вучастку, дзе вельмі шумна, і дзеці ў часе перапынку сустракаюцца з паліцэйскімі і арыштаванымі. Яшчэ горш справа ў Славацкай частцы Чэха-Славаччыны—у сялянскіх школах. Там у вёсках Падкарпацкай Расіі ўсе 6 клясаў школы зьмяшчаюцца ў 1 пакоі.

Піонэрская арганізацыя праводзіць кампанію супроць сьвяткаваньня 10-годзьдзя Рэспублікі. „Рэспубліка нам нічога ня дала,—пішуць яны. Мы заклікаем усіх дзяцей сьвяткаваць 11-годзьдзе Кастрычнікавай рэволюцыі, а не 10-годзьдзе Рэспублікі ў Чэха-Славаччыне“.

*Працяг гл. на 3 стар. вокладкі.*

---

Год выданьня 5-ты.

Да змаганьня за справу працоўных—будзь гатоў!

УМОВЫ ПАДПІСКІ:
На 1 месяц . . — р. 20 к.
„ 3 „ . . — р. 60 к.
„ 6 „ . . 1 р. 20 к.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
МЕНСК,
Комсамольская, 25.

# Беларускі Піонэр

ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ, ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР

№ 1 СТУДЗЕНЬ 1929 г.

## УСЮ ЎВАГУ—ПЕРАВЫБАРАМ САВЕТАЎ.

З першых дзён студзеня ў Беларусі пачала праводзіцца найвялікшая і найадказьнейшая кампанія—перавыбары Саветаў. Усе сілы, уся ўвага партыі і комсамолу аддаецца правядзеньню гэтай кампаніі. Чаму гэта на перавыбары Саветаў зьвяртаецца такая руплівая ўвага? А таму, што ад таго, якія людзі будуць выбраны ў Саветы, ад гэтага будзе залежаць посьпех соцыялістычнага разьвіцьця нашай краіны. Мы добра ведаем, што нашы клясавыя ворагі—кулак у вёсцы, нэпман і гандляр у горадзе—пішчом лезуць у Саветы, даюць подкупы несьвядомым абіральнікам — розным падкулачнікам, падлізам. Яны тычшчацца ў Саветы для таго, каб гэткім шляхам уставіць свае сукаватыя палкі ў колы шырокага сацыялістычнага будаўніцтва нашай краіны, у колы росту і разьвіцьця колектыўных форм гаспадаркі. Наш рост усё больш і больш выцясьняе з сваіх цёплых месц нашых ворагаў—кулака і нэпмана; наш рост набліжае ім сьмерць.

Але, на жаль, ня ўсё працоўнае насельніцтва разьбіраецца з такой простай і найважнейшай ісьцінай: не дапускаць у Саветы ворагаў рабочае клясы і беднаты. Сялянства наша часта абыяка, вяла адносіцца да перавыбараў Саветаў. Ворагі-ж нашы ня дрэмлюць. А ў выніку — у сельсавеце старшыня—кулак, члены—найчасьцей „цёмных спраў махляры“, наогул тыя людзі, хто любіць пагрэць свае брудныя рукі на дармовым агні.

Вось чаму партыя так востра ставіць пытаньне аб недапушчэньні ў Саветы нашых клясавых ворагаў.

Піонэры і вучні могуць вельмі шмат у чым дапамагчы пасьпяховаму правядзеньню гэтай кампаніі. Ніводзін атрад, ніводная школа не павінны прапусьціць моманту перавыбараў Савету ў іх вёсцы, мястэчку ці горадзе.

Самым баявым заданьнем для піонэраў і вучняў будзе—дабіцца таго, каб усе чыста бедьнякі, батракі і серадьнякі вёскі, у тым ліку і жанчыны, былі абавязкова на перавыбарах. Мы ведаем з практыкі справаздачных перавыбараў і мінулых сходаў, што шмат дзе на сходы прыходзіць менш паловы выбіральнікаў. Жанчыны, адпіраюцца, што ім няма калі, ёсьць мужчыны, якія таксама махаюць рукамі—„бяз нас абыйдзецца“... А потым гэта „вобмегам вылазіць“, як кажа наша прымоўка.

Піонэры і вучні павінны ў дзень выбараў рассыпацца па ўсіх хатах і дабіцца таго, каб усе выбіральнікі з хаты былі на сходзе. Калі ёсьць у хаце дзіця—паслаць туды няньку—піонэрку ці вучаніцу: няхай паняньчыць дзіця на гэты час, але матка дзіцяці павінна абавязкова пайсьці на сход.

Трэба добра растлумачыць сваім бацьком і ўсім сялянам аб значэньні перавыбараў... Да дню перавыбараў трэба ўпрыгожыць размалёванымі лёзунгамі і дыяграмамі аб перавыбарах памяшканьні, дзе будуць адбывацца сходы.

Зьбірайце конфэрэнцыі ўсіх дзяцей сельсаветаў і выносьце свае наказы новаму складу сельсаветаў: што ён павінен зрабіць для таго, каб усе дзеці маглі вучыцца, мелі кніжкі ў чытальні, мелі дзе лячыцца і інш.

Усе дзеці—піонэры і вучні—на дапамогу перавыбарам Саветаў! Не дапусьцім таго, каб у нашы пролетарскія і бядняцкія Саветы пралезьлі нашы клясавыя ворагі!

А. Ч.




Апавяданьне **Д. Заінчкоўскай.** Малюнкі **А. Абрамава.**

— Дзядзька! Дзядзька! Дайце закурыць, дык стану дубка!—крычаў Габрусь, дванаццацігадовы хлопец, на селяніна, які ехаў з Менску ў Лагойск, па бальшаку.

— Што, што, сынку?—спытаўся селянін, ня спыняючы каня, які борзда бег па роўнай, убітай дарозе. Габрусь, напружваючы ўсю сілу, стараўся бегчы поруч з возам.

— Дайце закурыць, дык стану дубка!—гукаў ён, аглядаючыся назад на сваіх таварышоў, якія беглі ўсьлед за ім.

— Якога дубка?—спытаў селянін, памахваючы пужкаю на каня.

— Дубка, дубка!.. На галаве стаяць будзем!.. дагары нагамі!—дадаў Сымон, дагнаўшы Габруся і прытрымліваючы на галаве парваную шапку, каб не зьляцела ад борздага бегу.

— На руках будзем хадзіць! Дагары нагамі!—крычала за возам рэшта хлопцаў.

Селянін, ня спыняючы каня, прывязаў лейцы за білу, памалу усадзіў у кішэні руку, выцягнуў адтуль нямалы запэцканы капшук з тутунём і, сьмяючыся, памахаў ім у паветры.

— Ну, станавецеся дубка, дык дам тутуню,—сказаў ён.

— Дык супынецеся!.. супынецеся!—гукалі, засопшыся ад борздага бегу, хлопцы.

— Няма калі мне супыняцца... так паказвайце...—жартуючы, сказаў селянін.

— Ды так нельга, от станьце лепш!..—гукаў, не адрываючыся ад возу, Сымон, борзда сьцябаючы бруднымі нагамі з голымі каленямі, прашараванымі за розьнымі гульнямі ў полі.

— Ды чаму-ж нельга?—пытаў селянін.

— Нельга, трэба супыніцца! От супынецеся, дык убачыце!..—крычалі хлопцы.

— Ну, добра, вот я там, трохі далей, стану,—казаў селянін, памахваючы пужкай.

Конь бег борзда і меншыя хлапчукі, змарыўшыся, пачалі патроху адсыпацца. Некаторыя вярнуліся да быдла, што тут-жа недалёка пасьвілася, а некаторыя засталіся пацікавіцца, што з гэтага будзе. Нарэшце, праехаўшы яшчэ з добрыя ганкі, селянін супыніў каня, і хлопцы, навыперадкі, адзін перад другім пачалі станавіцца дубка, хадзіць уверх нагамі, апіраючыся рукамі ў зямлю. Некаторыя, падтрымліваючы роўнавагу, нават хадзілі на руках перад возам, жадаючы праз гэта зьвярнуць на сябе большую ўвагу. Гэткія рэчы для іх былі не ўпяршыню. Такім чынам яны ня раз здабывалі на цыгаркі і за лета такі добра навучыліся стаяць на галаве і хадзіць на руках.

Ахвотнікаў пацікавіцца „дубкам“ нямала, і хлопцы ня раз, праз такія заработкі, з прыемнасьцю вярцелі вялікія цыгаркі і зацягваліся густым дымам, так сама, як гэта робяць старыя мужчыны ці дзяцюкі.

Некаторыя адразу не маглі курыць—закашліваліся, з вачэй беглі сьлёзы, шумела ў вушох, балела галава, нудзіла ля сэрца, але з часам усё гэта праходзіла і хлопцы ўсё больш і больш уцягваліся ў прывычку курыць. І калі цяпер часамі ня было чаго пакурыць, дык для хлопцаў быццам чагосьці не хапала. Тады яны браліся за сухое лісьцё ды розную брыдоту, а то аднойчы ім нехта параіў закурыць конскага сухоха гною, дык яны й паспыталі гэтага смаку. Усяго бывала. Але сапраўдны тутунь—ці то лёгкі—турэцкі, ці махорка,—усё-ж такі быў лепшым за ўсе іншыя гатункі, і хлопцы не праміналі ніводнага выпадку, каб ня выпрасіць у каго-небудзь з тых, што йшлі ці ехалі дарогаю, на цыгаркі тутуню. Так і цяпер, хоць і нямала прышлося бегчы за возам, але ўсё-ж такі дзядзька не ашукаў іх, як гэта часта бывала, і кожнаму з іх даў з свайго капшука на добрую цыгарку. Яму спадабалася тое, як яны, прымаючы роўнавагу, ня хістаючыся, стаялі на галаве, як сапраўдныя дубочкі, альбо спрытна хадзілі на руках. Пахваліўшы хлопцаў за іх „спрытнасьць“, ён паехаў сабе сваёю дарогай, а яны зноў, радыя ад таго, што здабылі закурыць, падскакваючы, весела пабеглі назад да быдла.

Калі прыбеглі на месца і хацелі закурыць, дык выявілася, што няма паперы. Пачалі шукаць па торбачках і кішэнях.

— Вот у мяне ёсьць на адну цыгарку,—сказаў Сымон, выцягваючы з кішэні кавалачак памятай газэтнай паперы.

— Дай мне!.. Мне!..—абступілі яго, працягваючы рукі ўсе пастушкі.

— Не, не, ня дам!.. У мяне больш няма. Толькі на адну...—адмахваўся Сымон.

— Ну, дык мы будзем удвох адну курыць,—пnative ставаў Габрусь,—а калі я дастану паперы, дык тады й табе дам.

— І я з вамі, будзем утраіх,—прасіўся Раман, невялічкі сухарлявы хлопчык.

— Ня дам!.. Дастаньце сабе паперы дый курэце...—адказваў Сымон, спаважна скручваючы цыгарку.

— Вот нядобры, вот скупендзя!.. Ну глядзі-ж, мы табе таксама не дадзім, як у нас будзе,—пакрыўджаным тонам адказвалі хлопцы.

— І ня трэба, ня вельмі я вас прасіць буду.

Скруціўшы цыгарку, Сымон дастаў з кішэні кавалачак ад паломанага пачка запалак, дастаў потым запалку і, затуліўшыся ад ветру, пачаў закурваць. Неўзабаве ён ужо са смакам цягнуў сваю цыгарку, сплёўваючы на зямлю ды выціраючы сьлёзы.

— Вот тутунец,—казаў ён,—сапраўдны крапчак!

— Дай пацягнуць!.. хоць трошкі, хоць адзін раз...—прасілі ў яго хлопцы.

Сымон не даваў.

— Вот скупы!.. Ну, пачакай!.. Будзеш ты калі-небудзь і ў нас прасіць... казалі яны...

— Пачакайце, вунь нехта йдзе з Менску,—узрадаваўшыся, закрычаў Раман.—Мы ў яго зараз папросім паперы. Цяпер ты будзеш у нас прасіць,—кінуў ён у бок Сымона.

— А можа ён вам яшчэ і ня дасьць,—сплёўваючы, адказаў Сымон.

— Дасьць, дасьць!.. Ён вунь якраз і нясе сабою нешта да газэт падобнае пад пахаю, — загамінілі пастушкі, пастаўшы пасярод дарогі.

— Ша-ша, хлопцы ня лезьце на дарогу! Станьце збоку!—разапхнуў Раман хлопцаў.—Ды скажам яму ўсе разам „здрастуйце“, дык ён напэўна дасьць паперы.

— Ды ён і так дасьць, калі ў яго ёсьць,—казаў Габрусь, прыглядаючыся ў бок чалавека, які йшоў з невялічкім кошыкам у руцэ па дарозе.

— Ды гэта, відаць, пан нейкі,—заўважыў Раман.

— Які там чорта „пан“ — умяшаўся Сымон—цяпер няма „паноў“... Цяпер мы ўсе паны.

— Ну, а хто-ж гэта такі?

— Ды хто-б ён ні быў, абы толькі даў паперы, — спрачаліся між сабою хлопцы.

Тымчасам невядомы чалавек падыходзіў бліжэй. У руках ён трымаў невялічкі кошык, з якога выглядалі кніжкі і яшчэ нейкія іншыя рэчы. Ён ішоў памалу, не сьпяшаючыся, спаважным

шагам. Відаць было, што ён ішоў здалёк. Яго твар быў трохі запылены, небагатае, але гладка пашытае адзеньне добра ляжала на яго тонкім стане. На выгляд яму можна было даць ня больш як дваццаць гадоў.

Калі ён параўняўся з хлопцамі, яны ўсе, як адзін, закрычалі:

— Здраступце!..

А Раман, дык той нават і шапку скінуў.

— Здаровы, дзеткі,—далікатна, усьміхаючыся, адказаў падарожнік, міжвольна сьцішаючы хаду.

— Дзядзька, дайце паперы!—прагаварыў Габрусь першым. Падорожнік спыніўся. Хлопцы, сьцішыўшы дыханьне, чакалі

— Паперы?—перапытаў ён.

— Але-ж, паперы, — адгукнуўся Раман.

— Нашто-ж вам папера?—запытаў падарожнік.

— Яны хочуць курыць,—адказаў за ўсіх Сымон, асьцярожна дасмоктваючы сваю цыгарку, каб не папячы пальцаў і рота.

— Курыць!—запытаў яшчэ раз падарожны. У галаве ў яго прамільганула якаясьці думка.—Добра,—сказаў ён,—вось я трохі ля вас пасяджу, адпачну, пагутару пра тое-сёе з вамі і дам тады вам паперы, хоць, як мне думаецца, курыць вам ня варта было-б.

З гэтымі словамі ён адышоўся крыху ў бок, пад роў, паставіў свой кошык, паслаў на траве старэнькае паліто, што нёс на руцэ, і сеў. Наўкола яго паселі пастушкі, якія ня спускалі з яго сваіх цёмных вачанят.

— Так, так, дзеткі, дам я вам паперы, але скажу шчыра, што курыць у вашы гады ня варта, ня можна,—прагаварыў падарожны і, нахінуўшыся да кошыка, пачаў там нешта шукаць.

— А чаму ня можна?—запытаў Сымон.—Вось-жа ўсе кураць, дык і нам можна.

— Так, хлопча, кураць, але ня ўсе. Цяпер ёсьць шмат такіх людзей, якія зусім ня кураць.

— Гэта толькі бабы ня кураць,—выпаліў Сымон.

— Так, бабы ня кураць у большасьці, але і акром іх ёсьць шмат людзей, што ня кураць. Пры гэтых словах ён выцягнуў з кошыка клуначак з кніжкамі, якія былі зьвязаны ў газэту.

— Вось што, дзеці,—у мяне няма тонкай паперы, а таму магу вам даць толькі газэтнай.

— Давайце! давайце!.. — загаманілі пастушкі, выцягваючы свае брудныя рукі.

Падарожны адарваў нямалы кавалак газэты, і яны, радыя ад таго, што дасталі паперы, борзда пачалі рабіць цыгаркі. Адзін толькі Грыцко не сьпяшаўся і неяк дзіўна глядзеў на падарожнага. Ён хацеў у яго нешта запытаць, але сароміўся. Нарэшце ён адважыўся.

— А чым гэта шкодзіць тутунь, што яго ня можна курыць?

— Вось пра гэта самае я хачу з вамі пагутарыць,—прамовіў падарожны, сядаючы зручней на сваім паліце,—але было-б цікавей, калі-б вы што якое і мне расказалі. Вось скажэце, напрыклад, як вы сябе пачувалі, калі ўпяршыню пачыналі курыць.

— Нешта ўсё нудзіла ля сэрца, галава балела,—неяк нясьмела прагаварыў Габрусь.

— А я дык адразу нават казлы драў,—думаў Раман.

— Ну, а як вы думаеце, чаму гэта з вамі так рабілася?

— А хто яго ведае?.. Пэўна тутун шкодзіць,—сказаў Габрусь.

— Вот, бачыце, выходзіць, вы ведаеце, што тутунь шкодзіць, дык чаму-ж вы тады курыце?

— Хто яго ведае,—прамовіў нехта з хлопцаў.—Вось так, як усе кураць, дык і мы курым.

— Вот-жа яно й дрэнна, што ў дзяцей, а гэтак сама і ў старэйшых, ёсьць прывычка браць прыклад з іншых. Калі-б браць прыклад з чаго добрага ды карыснага, дык гэта было-б нават добра, але курыць зусім не карысна, а, наадварот—нават вельмі шкодна. Кажучы проста, *курэньне ёсьць надзвычайна бязглуздая і вельмі шкадлівая прывычка.*

— А чаму-ж тады ўсе кураць, калі тытунь шкодзіць?—перабіў Сымон.

— Вот-жа я вам скажу, што наўрад ці можна сустрэць такога курца, які не разумеў-бы, што тытунь шкодзіць, а як, наколькі і чаму ён шкодзіць, дык гэта

вядома ня кожнаму. Вот, напрыклад, вы ведаеце, што тытунь шкодны, але наколькі ён для вас шкодны, дык вы напэўна гэтага ня ведаеце.

— Не, ня ведаем,—прамовілі пастушкі.

— Вот то-бо то й ёсьць. Калі-б вы добра ведалі, як тутунь шкодзіць здароўю, дык, мне здаецца, зусім мала было-б у нас курцоў, бо тады кожны, хто толькі хоць трохі шануе сваё здароўе, адразу пакінуў-бы курыць.

— Дык вы раскажэце нам, чым шкодны тутунь,—папрасіў Габрусь.

— Добра, добра! Раскажу ўсё, што толькі сам пра гэта ведаю.

Вось-жа слухайце.

Калісьці, у вельмі старажытныя часы, людзі зусім ня курылі. Тады пра тутунь нічога й ня ведалі, бо ў нашых краінах ён і ня рос нават. Але вось, прыблізна, трыста гадоў таму назад да нас прывезьлі тутунь з Амэрыкі, з далёкай краіны, якая знаходзіцца за морам.

— Я ведаю, дзе Амэрыка, я ў школе бачыў на мапе, нам настаўнік паказваў, пасьпяшыўся пахваліцца Сымон.

— Вот і добра, маладзец, калі ведаеш! Было-б добра, калі-б так усе ведалі. Дык вот-жа тутунь прывезьлі к нам з Амэрыкі. Тады прывезьлі яшчэ й іншыя расьліны, каб разьвесьці іх, як, напрыклад, картофлі.



*Тымчасам невядомы чалавек падыходзіў бліжэй.*

— Хіба ў нас ня было раней картофель?—зьдзіўлена запытаў Сымон.

— Не, ня было. Іх пачалі разводзіць ня так даўно—гадоў дзьвесьці таму назад.

— Вот, а мы й ня ведалі гэтага,—заўважыў хтосьці з гурту.

— Ды мы яшчэ шмат чаго ня ведаем,— сказаў Сымон, што лічыў сябе за разумнейшага за сваіх таварышоў.

— Так, праўду кажаш, хлопча,—сказаў падарожны,—а дзеля таго, што мы мала ведаем, павінны больш вучыцца, хадзіць у школу, у хату-чытальню, распытваць пра ўсё ў тых, хто ведае, чытаць кніжкі і газэты, а тады больш будзем ведаць. Ну, дык вот, калі тутунь прывезьлі з Амэрыкі, людзі ня ведалі добра, што гэта за расьліна, і ўжывалі яго як лякарства: нюхалі, калі балела галава, жавалі, а потым ужо і курыць пачалі.

У той час людзі не такімі вучонымі былі, як цяпер, і нават дактары ня ведалі, што тутунь шкодны для здароўя. Толькі аж у 1809 г. адзін францускі вучоны, хэмік Вокелен, рабіў над тутунём досьледы і знайшоў ў ім атруту, якую назваў *нікацінам.*

Пасьля таго яшчэ і шмат іншых вучоных рабілі досьледы над тутунём, і ўсе яны прышлі да тае самае думкі, што тутунёвая атрута—нікацін, ёсьць вельмі шкодная атрута, як вось, напрыклад, гэтак званая *сінільная кіслата*—вельмі моцная атрута, *нікаціянін* і шмат іншых відаў.

З тутунёваю атрутаю рабілі такія спробы: здабывалі яе з тутунёвых лістоў у чыстым выглядзе і пускалі ў кроў якой-небудзь жывёліне, і вось пабачылі, што адна толькі кропля тутунёвай атруты праз адну хвіліну забівае жывую істоту.

— А няхай-жа ёй ліха будзе!.. Аж вусьцішна робіцца,—казалі пастушкі, адкідаючы ад сябе далёка недакуркі цыгарак.

— А чаму-ж ніхто з нас ня ўмірае?— запытаў Сымон.

— Бо вы курыце патроху. У аднэй цыгарцы атруты ня вельмі шмат, ад гэтай атруты адразу памерці не памрэш, хоць будзеш і адчуваць яе нутром. Я прыпомню вам, што вы самі сказалі. Калі вы ўпяршыню пачалі курыць, дык у вас круцілася галава, шумела ў вушох, нудзіла ля сэрца, цягнула рваць казлы і г. д.

— Яшчэ й цяпер так часам бывае,— адгукнуўся Раман.

— Ну вось бачыце,—сказаў падарожны,—гэта ад таго, што, як вам сказаць, сама прырода пярэчыць атручваньню чалавека тутунём. Ёсьць, напрыклад, такія натуры, якія ніяк ня могуць прывучыцца курыць, бо ад першай-жа цыгаркі ім робіцца млосна.

— Вось я таксама не магу навучыцца курыць,—заўважыў невялічкі бялявы хлопчык Міхась, які ўвесь час уважна слухаў падарожнага.

— І ня прывыкай, хлопча, лепш будзе,—сказаў падарожны.—Ня толькі такія курцы, як ты,—казаў ён далей,—але й сталыя, ужо прызвычайныя старыя курцы, дык і тыя часамі адчуваюць кружэньне галавы, млоснасьць і іншыя адзнакі атручваньня. У цэлым сьвеце няма такога чалавека, якому-б ня шкодзіў тутунь. Напрыклад, кожны, хто выкурвае перад ядою некалькі папярос, траціць ахвоту да яды, а гэта ўжо, калі часта паўтараецца, шкодзіць для здароўя. Было-б яшчэ поўбяды, каб тутунь хоць колькі-небудзь замяняў сабою харч, а то-ж якраз наадварот: *тутунь не падтрымлівае, а разбурае людзкі організм.*

Шмат якія дактары апавядаюць, што ім на сваім жыцьці траплялася бачыць многа хворых, якія дасталі свае найстрашнейшыя хваробы печані і лёгкіх праз курэньне.

— Вот страшна,—прамовіў з гурту адзін з пастушкоў.

— Так, страшна, дзеці, але гэта яшчэ ня ўсё. Ад курэньня яшчэ й ня гэта бывае. Больш усяго *тутунёвая атрута робіць уплыў на галаўныя і сьпінныя мазгі, а таксама і на сэрца.* Тутунёвы дым праходзіць *праз лёгкія і заражае кроў,* якая разыходзіцца па ўсяму целу ад сэрца, і так, пра некаторы час, ува ўсіх курцоў ад тутуню псуецца сэрца. Сэрца–найважнейшы ворган нашага цела, а таму, хто толькі мае хоць трохі слабае сэрца, не павінен зусім курыць.

Так сама вучоныя давялі, што ад курэньня людзі барждзэй старэюць і раней часу паміраюць.

Гэта бывае таму, што ад тутунёвай атруты псуюцца жылы, па якіх праходзіць кроў: у сярэдзіне гэтых жыл асядае штосьці падобнае на вапну, а тады яны цьвярдзеюць, і чалавек ад гэтага пачынае хварэць і старыцца. Калі такія шкодныя ацьвярдзеньні робяцца ў тых жылах, якія праходзяць да нашых мазгоў, дык чалавек траціць памяць.

— Вот дык штука,—паддакнуў Сымон.

— Так, так, дзеці, гэта давялі вучоныя людзі, якія праз усё сваё жыцьцё працуюць для таго, каб толькі даць веды іншым.

— Як-жа яны пра ўсё гэта даведваюцца? запытаў Гобрусь.

— Вельмі проста: калі чалавек памірае, вучоныя разразаюць тое месца, якое хочуць разгледзець, і вывучаюць яго, Калі чаго ня ўбачаць простымі вачыма, тады разглядаюць праз павялічальнае шкло, або мікраскоп—такая прылада, якая павялічвае рэчы ў тысячу і больш разоў. Гэтак разглядаюць кроў, сэрца, пячонкі, мазгі і ўсё іншае, і так бачаць, што ў чалавека балела і ад чаго ён памёр.

— Хітра прыдумалі тыя вучоныя,—аж прыцмокнуў Раман, дзівячыся з таго, што гаварыў падарожнік.

— Гэта так даведваюцца, калі чалавек ужо памірае, а то можна-ж таксама бачыць розныя хваробы і ў жывых людзей. Напрыклад, ёсьць такая хвароба ад тутунёвага дыму, што слабеюць вочы. Ад гэтай хваробы можна часамі і зусім асьлепнуць. А то яшчэ ад курэньня можа зьявіцца такая страшная хвароба, якая завецца „грудной жабай“.

— Жаба?! Ой, трасца-ж ёй!..—дзівіліся хлопцы.

— Гэта тая, што сядзіць у балоце?— запытаў Раман.

— Не, гэта не сапраўдная жаба з балота, а так празвалі дактары тую страшную хваробу, ад якой у чалавека загніваюцца грудзі,—тлумачыў падарожны. Гэта вельмі паганая хвароба, і ад яе вельмі скора можна памерці. Усе гэтыя хваробы бываюць не абавязкова ў кожнага, хто курыць, але вельмі часта курэньне дапамагае нажыць тую ці іншую з гэтых хвароб. Ёсьць людзі, якія кажуць, што калі закурыць папяроску, дык ахвотней працуецца, але гэта ня праўда. *Тутунь ніколі нікому ня прыносіць карысьці, а толькі шкоду.*

*Асабліва шкодна дыхаць задымленым ад тутуню паветрам у хаце,* бо адно і тое-ж самае паветра з тутунёвым дымам удыхаецца ў лёгкія шмат разоў, і тады

ўся атрута з дыму ўваходзіць праз лёгкія ў кроў, а адтуль у цела. *Вельмі пагана робяць нашы курцы, калі накурваюць у хатах, дзе жывуць людзі, а асабліва малыя дзеці. Для малых дзяцей дыхаць такім дымам асабліва шкодна.* Іх лёгкія яшчэ нагэтулькі кволыя, далікатныя, што яны вельмі баяцца атрутнага тутунёвага дыму.

— Ну, а мне пашкодзіць тутунь?— запытаў Сымон.— я-ж ужо вялікі?

— Колькі табе год?—запытаў яго падарожны.

— Трынаццаты пашоў,—адказаў Сымон.

— Чалавек расьце да якіх - небудзь дваццаці пяці гадоў,—тлумачыў падарожны,—а да таго часу, асабліва ў такія гады, як твае, чалавек сама што разьвіваецца, і ў яго ўсё яшчэ недаразьвіта, слабое і нямоцнае, як у маладзенькага дрэўца, а таму ў такія гады, як цяпер твае, курыць вельмі шкодна. Шмат якія вучоныя і дактары рабілі шмат досьледаў над дзяцьмі, якія курылі, і прышлі да таго вываду, *што на дзецях курэньне тутуню адбіваецца надзвычайна шкодна. Тутунь—люты вораг дзяцей.*



*Дома кожны расказваў пра невядомага падарожніка.*

Ад тутуню дзеці марнеюць, дрэнна растуць, робяцца бледнымі, у іх псуюцца лёгкія, прытупляецца разумовая здольнасьць, а асабліва—памяць. У лёгкіх тых дзяцей, якія кураць, *тутунь рыхтуе месца для будучых сухот.* Тутунь—гэта схаваны, таемны, але страшны вораг як для дзіцячага, так і наогул людзкага здароўя. Часта дактары кажуць, што пры шмат якіх хваробах ім вельмі цяжка лячыць тых асоб, якія кураць. Адзін доктар расказваў, што ў яго жыцьці былі выпадкі, калі хворыя курцы, якія не хацелі пакінуць курыць, зусім не маглі вылечыцца і паміралі, а тыя, што кідалі тутунь, хутка ачуньвалі.

— А навошта-ж тады кажуць, што хто прызвычаіўся курыць, дык той ужо не адвыкне?—запытаў Сымон.

— Адвыкнуць ад гэтай паганай прывычкі курыць ня зусім цяжка: трэба толькі раз назаўсёды паставіць сабе ня курыць і, як-бы там ні было, стрымліваць сябе ад гэтага. Адразу, звычайна, будзе цягнуць да тутуню, у галаве так і круціцца будзе думка, каб пакурыць, але гэтую думку трэба рашуча гнаць ад сябе і не даваць волі дурным жаданьням, а тады будзьце пэўны, што пройдзе некаторы час і вы зусім забудзецеся, што курылі. Нават, наадварот: тутунёвы дым будзе вам здавацца такім прыкрым, што вы самі будзеце прасіць усялякага курца, каб ён ня курыў у вашай хаце. Вот што можа стацца ад разумнага адрачэньня курыць.

Я сам ведаю шмат каго з сваіх таварышоў, якія раней курылі, а цяпер ня могуць трываць, калі хто іншы курыць у іх хаце. І гэта зусім зразумела. Іх розум ніяк ня можа згадзіцца з тым, каб хтосьці сьвядома атручваў свой організм і скарачаў сваё жыцьцё. Я не хачу вас, дзеці, пераконваць, — сказаў падарожны да пастушкоў,—але мая шчырая, братэрская парада—перастаньце вы курыць. Вы самі потым убачыце, што мае словы былі не дарэмнымі: пакінуўшы курыць, вы зьберажэце сваё здароўе і будзеце даўжэй жыць.

Падарожнік змоўк. Пастушкі ціха сядзелі, і кожны па-своему, моўчкі перадумваў тое, што чуў ад падарожнага. Некаторы час усе маўчалі. Нарэшце, Габрусь пачаў:

— Я пакінуў-бы курыць, але-ж тут на полі, дзе ўсе кураць, ніяк ня вытрымаеш, каб і самому не закурыць.

— Гэта нічога, што каля цябе хто-небудзь курыць, — казаў падарожны,— раз ты вырашыў пакінуць курыць, дык

трэба сапраўды вытрымаць, а калі ты разумны хлопец, дык ніхто цябе ня можа зьбіць з толку.

Потым яшчэ можна зрабіць такую рэч: у школе, ці так сабе паміж таварышоў, організаваць гурток з тых, хто кінуў курыць або зусім ня курыў, і назваць яго *„таварыствам ворагаў тутуню“* ці як-небудзь інакш, як пажадаюць самі члены гуртка.

Гэта таварыства павінна выпрацаваць свае правілы, звычаі, законы, набыць адпаведных кніжак, малюнкаў супроць курэньня, а таксама скрозь і ўсюды расказваць пра тое, якую шкоду прыносіць людзям тутунь.

— Я калі пайду ў школу, дык абавязкова так зраблю,—сказаў Габрусь.

— Я й цяпер пакінуў-бы курыць,—адгукнуўся Сымон,—толькі тут у полі так сумна, што хочаш ці ня хочаш, а будзеш курыць.

— Добра, хлопцы, я вам трохі памагу ў гэтай справе,—сказаў падарожнік,—разьвязваючы свой клунак з кніжкамі.— З вас хто ёсьць граматны?—запытаў ён.

— Ёсьць, ёсьць,—адказалі пастушкі.

— Вот і добра. Наце вам вось колькі кніжачак і, каб вам ня было так сумна тут сядзець, будзеце чытаць іх. Гэта цікавыя кніжачкі. Калі вы ўсе ня ўмееце чытаць, адзін з вас няхай чытае ўголас, а іншыя хай слухаюць. Гэта на некаторы час адгоніць ад вас думку пра тутунь.—Падарожнік даў пастушкам некалькі прыгожых невялічкіх кніжачак. Пастушкі напярэймы накінуліся на іх і асьцярожна, з цікавасьцю, пачалі разглядаць іх—зьверху, у сярэдзіне і з усіх бакоў. Якраз усім хапіла па кніжачцы.

Габрусь быў задаволены больш за ўсіх. Ён уважлівей за іншых слухаў, пра што апавядаў падарожнік, і гэта рабіла на яго вялікае ўражаньне. Пачуўшы гэтулькі пра шкоду тутуню ды атрымаўшы ў дадатак такую прыгожую кніжку з малюнкамі, ён парашыў цяпер зусім ня курыць і ня выцярпеў, каб не сказаць:

— Я цяпер ніколі ня буду курыць... лепш буду кніжкі чытаць...

— І я таксама ня буду... — сказаў Раман.

— Вось і добра,—гаварыў, зьбіраючы свае рэчы, падарожны.—Я спадзяюся, што мае словы не прападуць дарэмна. Думаю, што вы будзеце разумнымі хлопцамі і ня будзеце рабіць таго, што вам шкодна! І кніжкі шануйце, ня рвеце іх, чытайце самі дый іншым дайце пачытаць, бо кніжка—гэта наш лепшы таварыш, дараднік і настаўнік...

З гэтымі словамі падарожнік устаў падняў паліто, узяў кошык і пачаў разьвітацца з пастушкамі.

— Ну, будзьце здаровенькі, дзеці! Не забывайце пра тое, што я вам нагаварыў, а яшчэ й другім расказвайце!

— Ідзеце здаровы!—далікатна адказалі пастушкі.—Вашых слоў мы не забудзем ніколі!..

— А за кніжкі вельмі вам дзякуем!— дадаў Габрусь.

Падарожны пашоў сваёй дарогаю, а пастушкі, радыя ад неспадзяваных падарункаў, весела гаманілі, любуючыся сваімі кніжачкамі.

— А вось глядзі, мая лепшая!

— Не, мая лепшая!..

— Не мая: у маёй больш малюнкаў,— хваліўся сваёю кніжкаю Раман.

Потым хлопцы павысыпалі на дарогу дзе які ў каго быў тутунь і ўзяліся за чытаньне кніжак. Кніжкі былі вельмі цікавыя, і хлопцы не агледзеліся, як мінуў дзень.

Увечары пастушкі, радыя ад падарункаў і ад перамогі над „лютым ворагам“, як яны празвалі тутунь,—пагналі быдла дамоў.

Дома кожны з іх пахваліўся кніжачкамі сваёй радні і, як умеў, расказваў сваім пра тое, што чуў ад невядомага падарожніка.

Габрусеў старэйшы брат, пачуўшы ад яго, якую шкоду робіць людзям тутунь, таксама раз назаўсёды парашыў кінуць курыць.

Кладучыся спаць, Габрусь яшчэ раз пацікавіўся сваёю кніжачкай і заснуў моцным, спакойным сном.

Яму сасьнілася, што ён у школе. Яго адусюль абкружаюць таварышы і ён заўзята апавядае ім пра „лютага ворага“, так, як ён чуў ад падарожніка. Яго ўважна слухаюць, спрачаюцца, абмяркоўваюць прамову, а потым выбіраюць старшынёй „таварыства ворагаў тутуню“.

(*З украінскае*).

*АКЦЯБРАТАМ ДЛЯ ЧЫТАНЬНЯ.*



# Байка пра зайку

Байка А. Куляшова і Ю. Таўбіна.

Малюнкі *Зданоўскай*.

I.

Ой, у лесе замяло
Замецьцю дарожкі.
Шэры зайчык пакалоў
Беленькія ножкі...
Круціць вецер навакол,
Па-над лесам вые...
Увабраўся лес і дол
Ў сьвіткі сьнегавыя...
Толькі сыплюцца наўзьдзіў
Белыя крупінкі...
Зайца холад ахапіў
З галавы да сьпінкі.
У двары ў яго адны
Дзеткі зайчаняткі,
І галодныя яны
Бегаюць ля хаткі...
Маткі зраньня шчэ няма,—
Усё шукае стравы,
Бо пазьнішчыла зіма
Смачныя прыправы...
Сталі голымі палі,
У гародах пуста.
І даўно ужо зьнялі
Рэпу і капусту.

Лета цэлае жылі,
Клопатаў ня мелі,
Покуль сьцежкі замялі,
Жорсткія мяцелі.
І капаюць вось цяпер
Жоўтую травіцу,
Хоць-бы далі напавер
Гарэлкі напіцца.
Зайчык скача цераз гай,
Ляскае зубамі:
— Вось дык холад... ай-ай-ай...
Што тут будзе з намі?
Ды ўжо позная пара—
Адпачыць ахвота,
Вось да рэчы і нара
Землямера Крота...
„Ці зайсьці сюды, ці не?..
Думае, гадае...
— „Зай Іваніч, да мяне“..
Крот яго гукае...
Зайка глянуў на сябе:
Здэцца, ўсё ў парадку...
Цераз корчык перабег
І ўвайшоў у хатку.



II.

Хатка гэта на краю
Колькі год стаяла,—
Тут зьвяркі заўсёды п'юць
І крычаць нямала.
Ці то восень, ці зіма—
Ў ёй зьвяроў бязьмеры...
Гэта слаўная нара
Крота-землямера...
Вось і зараз паглядзіш—
Дык каго няма там:
Тут і сьлізень,
Тут і мыш,
І пацук багаты;
І бабёр—пракурор
З Тхорам-адвокатам,
Тут вавёрка на куце
Села, як паненка,
Кудры пышныя пляце,
Верціцца ля сьценкі...
Вось і дзяцел прыляцеў
З шумнае дубровы,
Да вавёрчыхі прысеў
З палкаю размовай...
Ды, разьлёгшыся у лёжы,
З лягарытмамі заснуў
Матэматык—Вожык...
Крот з кратчыхаю снуюць
Па ўсяму пакою
І нікому не даюць
Жаднага спакою...
Толькі заяц адчыніў
Вузенькія дзьверы—
Усё зьмянілася наўзьдзіў,
Не дасі і веры...



Зайка мышцы—„Добры-
дзень!“—
Вожыку—„Дабранач“...
Хата ходырам ідзе,
З ёю Зай Іваныч...
Стаў гарэлку зайка
дзьмуць,
П‘е за чаркай чарку,
У вачох імгла і муць—
Шкода гаспадарку...
Раптам зьвесіў зайка нос
Ды заплакаў горка...
Тут падселі да яго
Дзяцел і вавёрка...
А за імі сьлізень, мыш
Ды пацук багаты,
І бабёр-пракурор
З тхорам-адвакатам...
Гэты кінуў свой абед,
Той пакінуў піва,
Крот з кратчыхаю
усьлед
Бегаюць шумліва...
Усё зьмянілася наўкол,
Загудзела хата...
І парушыў свой пакой
Вожык-матэматык...
„Што такое, Зай, у вас?“—
Усе яму гавораць.
Зай Іваныч у адказ:
„Ня жыцьцё, а гора...
Удвары ў мяне адны
Дзеткі-зайчаняткі,
І галодныя яны
Бегаюць ля хаткі...
Жонка зраньня ‘шчэ пай-
шла,
Усё шукае стравы,
Бо пазьнішчыла зіма
Смачныя прыправы...
Сталі голымі палі,
У агародах пуста
І даўно ўжо зьнялі
Рэпу і капусту...
Лета цэлае жылі,
Клопату ня мелі,
Покуль сьцежкі замялі
Жорсткія мяцелі...
І капаем вось цяпер
Жоўтую травіцу,
Хоць-бы далі напавер
Гарэлкі напіцца“...
Тут галоўкаю павёў
Зайка вельмі дзіўна
І заплакаў ён ізноў
Горка і надрыўна...
Стала ўсім яго шкада,
Бедным і заможным,
Парашыла грамада
Памагчы як можна.
Сьлізень кажа: „я даю
Пяць пудоў лістоты“...
Кажа мышка: „дадаю
Слуцкіх бэргамотаў“.
Куранятаў жыча тхор,
А пацук махоркі.
І бабёр-пракурор
Абяцае коркі...
Крот гарэлкай напавер
Заіньку частуе,
А кратчыха—дзікі зьвер—
На яго злабуе...
Нават Вожык упацеў,
Бо штурхаўся спрытна,
Абяцаўшы для дзяцей
Кніжку лягарытмаў.
Тут вавёрка пачала
Усім наперагонкі,
Ды такую завяла
Пыхкую гамонку:
— Я ня маю так, як мыш,
У суседа саду,
Ды такую, паглядзіш,
Дам табе пасаду“...
Падае яму ураз
Нейкую запіску:
„Кіраўніцтва Хлеб. прам
гас.
Грамадзянцы Лісцы.
Гэтым, любая, прашу
Аб маленькай ласцы.
Вельмі коратка пішу,
Бо ня маю часу:
Зай Іваныч, прад‘яўнік
Данае паперы,
Ёсьць найлепшы працаў-
нік
З усялякіх зьвераў,
Яму вельмі дрэнна жыць—
Выганяюць з хаты,
Бо цяпер чамусьці там
Скарачэньне штатаў...
Пасылаю вам прывет
з „Мураўінай горкі“.
Дык зрабеце ўсё, як сьлед!
Вашая Вавёрка.
Зайка дзякуе. Удол
Пахіліў галоўку
І шукаць хутчэй пайшоў
Хлебазагатоўкі...

III.

У габінэце у Лісы
Да пяці прымалі.



А ў вячэрнія часы
Пыхка балявалі...
Зайка тры разы хадзіў,
Аніяк ня трапіць,
А ў чацьверты захапіў
Ліску на канапе.
Тая стала перад ім
З тоўстаю цыгарай
І пусьціла горкі дым
Заіньку у тварык.
— Што вам трэба, хто вы ёсьць,
Ды з якою радай?
І чаму, як нейкі госьць,
Ўходзіш без дакладу...
Зайка мордачкай патрос:
— Як-жа, пане Ліска,
Ад ваверкі я прынёс
Гэтую запіску...
Прачытала... Павяла
Навакол вачыма:
— Я-б пасаду вам дала,
Ды няма прычыны.
Бо, як бачу, вы і так
Сыты і абуты,
А які-небудзь бядак
Енчыць у пакутах.
А каб гэтым болей нам
Не перашкаджалі,—
Ліска—цап! яго і—гам!—
Толькі і відалі...
Жонка Зайкава даўно
Мужыка чакала,
Бо галодныя ізноў
І запасаў мала...
Горка дзетачкі сядзяць,
Плачуць па куточках,
Просяць матку зашываць
Драныя сарочкі.
Раптам дзьверы тут наўсьцяж
Нехта адчыняе,
Дробны заінькаў багаж
У руках трымае...
— Зайка тут кватэраваў?
Вось яго адзеньне,
Небу душу ён аддаў...
Ну, да пабачэньня!..
— Ах, мой Заінька, мой муж,
Гэта так ня стане.
Я папомню, я памшчу
У варожым стане...
І зьбягаюцца усе
Зайчыкі—суседзі...
Той двустволачку нясе,
Той сякеру ўгледзіў.
І узьнялі зайцы бунт,
Помстаю палаюць;
У міліцыю бягуць
З крыкам заяўляюць.
. . . . . . . . . . . . .
З тэй пары усё інакш
У заячым пасёлку,
Там цьвіце цяпер вясна
Шчаснаю вясёлкай...
Апэрацыю лісе
Ў жываце зрабілі,
Зайку цэлага яшчэ
З страўніку здабылі.
Стаў наш зайка пажываць
Хораша ў „арцелі“
І цяпер яшчэ, як знаць,
Моцны ён і цэлы...
І ня п'е больш напавер
Ля кратовай хаткі;
Акцябратамі цяпер
Сталі зайчаняткі.
А як сьвята,—да яго
Усе зьвяры прыходзяць
І пра памятны той год
Гутаркі заводзяць.
Тут і сьлізень,
Тут і мыш,
І пацук хвастаты,
І бабёр-пракурор
З тхорам-адвакатам.

Мі-га-ці-цца серп і мо-лат у вян-ку па-бед-ных зор. Дык спя-вай, пра-цо-ўны
во-лат на у-весь зя-мны пра-стор, пра-стор. У час зма-га-ньня вы-сек мо-лат на ка-
вад-ле і-скраў рой, і-скраў рой і спля-лі-ся я-ны ўко-ле над пра-цоў-на-ю зям-
лёй, зям-лёй.

Словы **М. Васілеўскай.** Музыка **М. Ф. М.**

## ДЗЕСЯЦЬ ГОД.

**Мігацінца серп і молат**
**У вянку пабедных зор.**
**Дык сьпявай, працоўны волат,**
**На увесь зямны прастор!**
**У час змаганьня высек молат**
**На кавадле іскраў рой,**
**І сьпляліся яны ў коле**
**Над працоўнаю зямлёй.**

**Дзесяць год нам далі сілы**
**Устаць на новы шлях жыцьця,**
**Дзесяць год над краем мілым**
**Зіхаціць чырвоны сьцяг.**
**Высякай-жа, молат, зоры,**
**Хай вянок яны плятуць,**
**І на ўсёй зямной прасторы**
**Серп і молат хай жывуць!**

# НАША ГАЗЭТА

№ 1 Насьценная газэта чытачоў „Бел. Піонэра“ № 1

## Прэч антысэмітызм і шовінізм з школ і атрадаў!

У шмат якіх мясцох Беларусі існуюць ганебныя паводзіны на грунце нацыянальнай варожасьці некаторых адсталых рабочых і сялян. Усяму саюзу стала вядомай буйная антысэміцкая справа на заводзе „Кастрычнік“ у Бабруйскай акрузе. Гэтак-жа стала вядомай справа і адваротнага парадку—яўрэйскага і расійскага шовінізму на гэтым і іншых заводах. Такія факты антысэмітызму і шовінізму выяўляюцца і на іншых заводах.

Тое-ж самае мы наглядаем і шмат дзе ў вёсках.

Бязумоўна, што гэтая шкодная зараза перакідваецца лёгка ад старэйшых і на дзяцей. То сям, то там адгукваюцца і антысэміты-дзеці. Так, напрыклад, было ў **ЦІМКАВІЦКАИ СЯМІГОДЦЫ**, аб гэтым пішуць і некаторыя нашы дапішчыкі.

Піонэры і вучні павінны жорстка зганьбіць гэта зьявішча, што носіць назву **АНТЫСЭМІТЫЗМ і ШОВІНІЗМ**.

Мы не павінны дапускаць нацыянальную варожасьць у нашы школы і атрады, дзе таварыства і братэрства паміж дзецьмі працоўных павінна стаяць на першым месцы. Мы не павінны дапускаць гэтага таму, што [illegible] варожасьць *спрыяе на руку ворагам савецкай улады і комуністычнай партыі.*

Наш Савецкі Саюз моцны таму, што ён трымаецца на ўзаемным даверʼі і падтрыманьні працоўных усіх рэспублік і ўсіх нацый. Гэта добра разумеюць нашы ворагі і дзеля гэтага яны стараюцца ўсімі мерамі пашкодзіць нам, убіць клін паміж асобнымі групамі працоўных. Для гэтай мэты яны выкарыстоўваюць нацыянальную варожасьць. Антысэмітызм наогул быў моцнай зброяй у руках капіталістых, пры дапамозе якой яны нацкоўвалі працоўных розных нацый адзін на другога. Вось чаму нацыянальная варожасьць асабліва шкодна для нашага Саюзу. Той, хто нават несьвядома пашырае нацыянальную варожасьць, памагае ворагам працоўных, ідзе супроць Савецкай улады.

У нас у Беларусі цяпер ідзе заўзятае ўпартае клясавае змаганьне як у вёсцы, так і ў горадзе, у мястэчку.

Варожыя працоўным масам сілы—кулак у вёсцы, нэпман-гандляр у горадзе і мястэчку—імкнуцца на кожным кроку пашкодзіць працоўным, пашкодзіць вялікаму будаўніцтву, бо-ж гэтае будаўніцтва і супольнасьць работы ўсіх працоўных—сьмерць для ворагаў. Ня дзіва, што ворагі праводзяць шалёную кампанію, падгаварваюць адсталых рабочых і сялян, каб тыя нацкоўвалі [illegible] *адзін на другога,—гэта ўсё паслабляе моц нашага Саюзу.*

*Кветкі антысэмітызму*

*і іх карэньні...*

**Піонэры і вучніі, ганеце прэч з сваіх шэрагаў усякае праяўленьне шкоднай нацыянальнай варожасьці. Дапамажаце сваім бацьком, братом і сёстрам, і ўсім другім уцяміць пра шкоднасьць і агіднасьць антысэмітызму і шовінізму.**

## Антысэмітызм трэба вырваць з карэньнем.

*У нашай школе вы пачуеце яшчэ такія словы, як „жыд“, „жыдоўская морда“ і г. д. Нядаўна такое слоўца на ўсю клясу празьвінела нават на лекцыі з вуснаў вучаніцы 6-й групы Б. Н.*

*У нашай савецкай школе не павінна мець месца нацыянальная грызьня, недаверʼе. Антысэмітызм трэба вырваць з карэньнем.*

Пікор.

Нова-Барысаў
8-я Школа

## Вечар.

Прышоў зімовы вечар,
Лягла на землю цень,
Закончыўся працоўны
Марозны, ясны дзень.

Кругом ўсё ціха стала,
І вецер ня шуміць,
Ля вокан надаедна
Сьняжынак ня імчыць.

На вёсцы вечарынка:
[illegible] дзядзька Йван,
Заводзіць разудала
„Каробачку“ баян.

У клюбе шум і гоман:
Савет праводзіць сход.
Аб тым, як жыцьце строіць,
Гудзе цяпер народ.

Пад песень шум вясёлы
З ваенгуртку назад
Расходзіцца па вёсцы
Наш піонэратрад.

Рыпіць па-над нагамі
Пушысты, мяккі сьнег.
Разносіцца па вёсцы
Здаровы моцны сьмех.

І льлецца песьня звонка
І ўторыць ёй баян:
„Мы маладая гвардыя
Рабочых і сялян“.

А. АЗЕМША.

## РЭДАКЦЫЯ ПРОСІЦЬ ДЗЯТКОРАЎ ПІСАЦЬ НАМ:

1) Як ваш атрад і школа рыхтуюцца да вясеньняй сяўбы.

2) Што піонэрамі зроблена, каб іх бацькі ачышчалі сваё насеньне перад сяўбою.

3) Ці ставіў ваш атрад перад сельсаветам пытаньне аб тым, каб своечасова былі прывезены ў вёску машыны для ачысткі насеньня.

4) Ці ўзьнімалі вы ў школе пытаньне аб тым, каб організаваць паказальны агарод на школьным вучастку. Што дзеля гэтага намеціў ваш атрад і комсамольская ячэйка.

5) Як піонэры дапамагаюць вучыцца ў школе вучням з батракоў і беднаты.

## Злодзей.

Сыпаў дробны дожджык. З маленькіх лужынкаў зьбягала брудная вада ў вялікую лужыну сярод вуліцы.

Вечарэла. Было халаднавата. Пад нагамі ліпкае балота. Праходзячыя ахінаюцца ў паліто, настаўляюць каўняры, шпарка пераскакваюць праз лужыны і імкнуцца чым хутчэй дабегчы, куды трэба, бо ніхто ня хочуць доўга быць на вуліцы ў гэтакую пагоду.

Цёпла і прытульна ў клюбе „Комінтэрну“. Яшчэ цяплей і весялей у піонэрскай частцы клюбу. Сёньня заняткі другога зьвяна. Дзеці ўнеслі вялікія драбіны, каб на віднейшым месцы прыбіць плякаты. Янка—павадыр зьвяна, піонэр з кірпатым носам, недалікатна расьпіхаў локцямі дзяцей, якія жадалі першымі прыбіць свае плякаты. Ён груба крыкнуў:—я палезу сам! Уцякайце!

Ніхто не супярэчыў, нават ня мог супярэчыць. Усе ведалі Янкаву натуру і прывыклі да яго дрэнных паводзінаў. Янку ня любілі: „Ябеднік“,—так гаварылі на яго піонэры. „Актыўнасьць выяўляць сябе“—першы заўсёды. За ўсё бярэцца, бо ўсе ведае.

Адзін плякат ужо прыбіты. Вялікімі літарамі было напісана:

> **Курыльшчык—самы спрытны злодзей.**
>
> **Ён у вас на вачох крадзе тлен з паветра.**

Засталося прыбіць два плякаты:

> **„Той, хто курыць—сябра сухотаў“.**

і

> **„Толькі мёртваму няшкодны тутунь“.**

Іх прыбіў таксама сваёй уласнай рукою Янка. Гутарку аб курэньні Янка ўжо правёў. І піонэрам аставалася ісьці дадому. Заняткамі піонэры засталіся нездаволены. Некаторыя пайшлі дахаты яшчэ раней. Янка надзеў сваю куртку, шапку-будзёнаўку, толькі без зьвязды. Вышаў з клюбу. Хутка ён быў ля кіно „Модэрн“. Праціснуўся праз густую групу людзей і зьнік.

* * *

Павадыр стукаў алоўкам па стале. Усе гаварылі разам. Ніколі ня было яшчэ такога бурнага сходу. Дзеці стараліся адзін аднаго перакрычаць. Справа была, здаецца, лёгкай, і разьвязаць яе можна хутка. Але чамусьці ўсе хваляваліся.

Упэўніўшыся, што алоўкам не ўціхамірыш дзяцей, павадыр проста кулаком пастукаў па стале. Ледзь-ледзь ўдалося яму паменшыць шум.

— Слова Лявону,—патрабавалі піонэры.

— Хай усё раскажа, як было.

— Лявон, гавары!

Лявон праціснуўся да стала і пачаў:

— Было гэта так: я, Сёмка і Тодар пашлі ў прыбіральню. Зайшлі... стаіць Янка і курыць... Як толькі ён нас убачыў, зразу-ж кінуў папяросу. Мы пытаем—Ты курыў? А ён у адказ:—Хто курыць? Дзе курыць? Я курыў?—Ну, а хто-ж? Янка са злосьці даў мне вось сюды і пхнуў Тодара сюды, а сам пабег. Я і мае таварышы хацелі дагнаць яго, але ён уцёк.

Янка стаяў каля вакна і выводзіў нешта пальцам па шкле. Усе павярнуліся ў яго бок. Ён спаважна адышоўся ад вакна. Апусьціўшы галаву і перабіраючы нешта ў пальцах буркнуў:

— Выпішце мяне з атраду. Не хачу быць у такім паганым атрадзе. Афіцыйна заяўляю—выпішуся!

— Выключыць, а ня выпісаць!—крычалі ўсе.—Янка кінуўся да дзьвярэй, спыніўся ды крыкнуў:—шпана!

— Злодзей!—крыкнуў яму нехта ўсьлед.

Раптам стала ціха.

— Сапраўдны злодзей! — гэтак-жа моцна і ўпэўнена паўтарыў голас,—сам пісаў плякат „курыльшчык—злодзей тлену“,—Янку выключылі... Л. Б.

## ЗАВАЯВАЛІ АУТАРЫТЭТ.

Нашаму беларускаму атраду імя Бухарына было вызначана заданьне дапамагчы падрыхтоўчай працы да перавыбараў сельсаветаў, у прыватнасьці Ляднянскага с-с. Усе піонэры жыва ўзяліся за гэтую працу. Цэлымі днямі сядзелі і перапісвалі сьпісы, пісалі позвы, каб зьявіліся сяляне на сход.

Сяляне, якія бачылі гэта, казалі:

— Вось будаўнікі новай вёскі, бо яны самі ўзяліся за працу і далі прыклад іншым.

**А. Ландарскі.**

Ляды, Аршаншчына,
Ляднянская сямігодка.

## Культ. паход нашага атраду.

За час культ. паходу наш атрад шмат чаго зрабіў.

Нашымі піонэрамі быў зроблены выхад у в. Прусы. Там была зроблена гутарка на тэму „Хто такія піонэры“, быў пастаўлен спэктакль, была дэклямацыя, частушкі і інш.

Акрамя гэтага, піонэры нашага атраду сабралі 55 кніг і часопісаў, якія і перадалі дзецям в. Прусы.

Пасьля нашага выхаду ў гэту вёску, у ёй організаваўся піонэр-атрад.

**Гарошка.**

14-ты атрад Ю. П.,
Капыль.

## Жывая справа.

Ужо другі год пры Зэмбінскай сямігодцы працуе літаратурны гурток. Адзін раз на тыдзень адбываюцца заняткі гуртка.

На гэтых занятках вывучаецца тэорыя прозы і поэзіі, творы асобных пісьменьнікаў, або пад кіраўніцтвам настаўніцы самі гуртkоўцы вучацца пісаць розныя артыкулы і апавяданьні.

Часта на занятках мы займаемся чыткай якога-небудзь расійскага ці беларускага мастацкага твору.

З гэтага году гурток будзе рэгулярна выдаваць сваю штомесячную часопіс „Маяк“. Гэта часопіс будзе зьмяшчаць ўсю літаратурную вучнёўскую творчасьць нашай сямігодкі. Акрамя гэтага, трэба адзначыць, што сябры літаратурнага гуртка зьяўляюцца актыўнейшымі дзяткорамі насьценнай газэты.

Мінулай зімой Зэмбінскі гурток наладжваў вечар Някрасава, на якім рабілі даклад аб Някрасаве, дэклямавалі яго лепшыя вершы і ставілі інсцэніроўку яго поэмы: „Кому на Руси жить хорошо“.

Сёлета літ. гурток падрыхтуе вечар да юбілею В. Караленкі.

Зэмбін,
7-годка.

## ГУРТОК „БЯЗБОЖНІКА“.

Пры Варэнцаўскай школе першай ступені пад кіраўніцтвам настаўніка організаваўся гурток „Бязбожніка“.

Першым чынам настаўнік растлумачыў, дзеля чаго нам патрэбен гэты гурток. Пасьля гутаркі вучні пачалі запісвацца ў гурток. Зараз у гуртку адбываюцца заняткі па суботах. Гурток наведвае 50 вучняў. Для заняткаў гуртка ўхвалілі выпісаць часопісь і газэту „Бязбожнік“.

**Казлоўскі.**

Талачынскі раён.

## Прывучайцеся быць культурнымі гаспадарамі.

*Часта ў вёсках бацькі яшчэ скоса паглядаюць на сваіх дзяцей-піонэраў. Бацькі больш крыўдзяцца на тое, што піонэры часамі займаюцца гультайскай справай—шмат гаворачь, крычаць бяз толку, а карысьці ад гэтага нікому: ні бацьком, ні атраду.*

*Піонэр у гаспадарцы павінен менш усяго гаварыць і тыкаць пальцамі, што і тое дрэнна і гэта,—ён павінен больш рабіць сам, каб бацькі бачылі, што ты ня лёгкі „на язык“ гаварун, а добры работнік.*

*Трэба змалку прывыкаць рупіцца аб усім, што дапамагае наладзіць лепшае сьвятлейшае жыцьцё ў сялянскай сям'і. Узяць хоць-бы такі вузкі круг работы—***хата і двор.** *Зусім слушна будзе, калі кожны піонэр на кожным кроку будзе абчышчаць хату і двор ад бруду, гразі. Вымятаць сьмецьце, праветрываць хату, абчышчаць ад павуціцьня сьцены, выганяць з хаты лішніх „семянінаў“—цялят, парасят курэй,—усё гэта прышчапляе культурныя навыкі самому піонэру і пазбаўляе ад бруду хату. Тое-ж і на дварэ. Рэдка ў якога руплівага гаспадара ёсьць на дварэ, у гумне парадак: найчасьцей двор і ўся сядзіба—гэта месца рознага ламачча, гнілі, гною, чаго толькі хочаце знойдзеце там. Усё гэта ўтварае дзікі адваротлівы малюнак. Навесьці ўсюды парадак, абчышчаць сядзібы і двор ад гною, наладзіць уборную ў якім-небудзь адным месцы, зрабіць гнойную яму,—усё гэта ў першую чаргу работа* **самага культурнага селяніна-піонэра.**

**А. Ч.**

## ЗА ПАШЫРЭНЬНЕ ЧАСОПІСІ.

*Круглянскі атрад імя Адамовіча распрацаваў заданьне—„Пашырым Беларускі Піонэр“. З гэтай мэтай быў выпрацаваны плян, як і над чым працаваць. Заданьне цягнулася тры тыдні. За гэты час мы акуратна прадумалі і абгаварылі шмат пытаньняў аб зьмесьце часопісі. Вынесена пажаданьне, каб рэдакцыя пашырыла матар'ялы ў дапамогу вясковым піонэрам: як весьці гаспадарку, практычныя парады па сельскай гаспадарцы. Адзначана тое, што мала аддаецца ўвагі рабоце з дзяткорамі і інш.*

*Заданьне зацікавіла ўсіх піонэраў. Усе пачалі актыўна праводзіць кампанію за выпіску часопісі дзяцьмі нашага раёну.*

**М. Дзергачоў.**

м. Круглае.

## САМІ ПЕРАПЛЯТАЕМ КНІГІ.

*(г. Петрыкаў).*

**Да гэтага часу пры нашым атрадзе ня было пераплётнага гуртка і кожнаму піонэру прыходзілася плаціць каму-небудзь за пераплёт кнігі па 30 кап. Цяпер па ініцыятыве новага павадыра атраду ў нас арганізаваўся пераплётны гурток. Савет атраду заказаў для гуртка варштат з нажом, што каштавала 7 рублёў, ды вылучыў кіраўніком старэйшага піонэра.**

**Дзякуючы гуртку, усе кнігі ў піонэраў, а таксама і пры нашай бібліотэцы пераплецены.**

**Далей гурток мае мэту пераплятаць кнігі з другіх бібліятэк ды на вырučаныя грошы купіць для атраду барабан, сьцяг, піонэрскі ражок і інш.**

**Тодар Цалко.**

г. Петрыкаў,
Мазырская акруга,
1-ая школа.

## Наш паход у вёску.

Піонэры і комсамольцы Ляднянскай сямігодкі, а таксама і наогул моладзь мястэчка Лядаў зрабілі культурны паход у вёску Пацэнькі і Масьліна. Аграном на агульным сходзе сялян растлумачыў пра паляпшэньне сялянскай гаспадаркі. Адразу-ж, прышоўшы ў вёску, піонэры сабралі вясковых дзяцей і правялі з імі гутарку наконт атраду і школы, якіх у вёсцы няма. Вынікам гэтага зьяўляецца тое, што хутка ў вёсцы будзе арганізаваны піонэратрад і адчынена школа.

**А. Л.**

## Да ўвагі вайсковых гурткоў.

*Цэнтральны Піонэрскі Габінэт (у Маскве) наладжвае пры габінэце Вайсковы Аддзел. Гэты аддзел павінен будзе заняцца вывучэньнем лепшых форм працы па вайсковай справе ў атрадах.*

*Праверания і лепшыя вопыты будуць потым габінэтам пашырацца сярод атрадаў для выкарыстаньня ў іх рабоце. У круг работы вайсковага габінэту ўваходзіць: даваць парады па вайсковай рабоце—як наладжваць экскурсіі, паходы і гульні, як рабіць вайсковыя выстаўкі, дапамагаць набываць прылады для вайсковага выхаваньня і шмат чаго іншага.*

*Але для таго, каб вайсковы габінэт мог добра працаваць, яму трэба дапамагаць у гэтым. Дапамагаць у першую чаргу могуць самі вайсковыя гурткі шляхам наладжваньня цеснай сувязі з габінэтам.*

*Вайсковы аддзел просіць прысылаць яму: справаздачы, даклады, пляны па вайсковай рабоце; лісты дзяткораў, якія высьвятляюць вайсковую работу; модэлі, макеты, розныя навочныя прылады, рысункі, дыяграмы і ўсё іншае, што адносіцца да вайсковай работы ў атрадзе.*

*Высылаць просьба па такому адрасу: Москва, Трубецкой пер., 16. Академия Ком. воспитания имени Крупской. ЦПК, Военный отдел им. ОСО-Авіахіма.*

*(Корэспондэнцыю можна пасылаць бяз марак).*



# Станем гаспадарамі сваёй арганізацыі

## Возьмем пад кантроль работу бюро піонэраў.

### Дзіўныя незнаёмцы.

Дзесяць чалавек сядзяць і ломяць галаву, што гэта за зьвер такі—бюро піонэраў?

Піонэр з 21 атраду г. Тулы працуе павадыром зьвяна ўжо тры месяцы. У арганізацыі ён з 1926 г. Кіруючы працай зьвяна, ён ні разу не зьвяртаўся ў раённае бюро піонэраў, каб тое яму штонебудзь дапамагло ці растлумачыла ў яго працы. „*Я ніколі ня чуў пра раённае бюро, ня ведаў, ці ёсьць такое,—кажа ён,—і ніколі ня думаў, што нам можна туды зьвяртацца апрача павадыра атраду*“.

У гэтым-жа атрадзе выключылі двух піонэрак. Павадыр быў супроць выключэньня, але піонэры настойліва патрабавалі выключыць, бо гэтыя піонэркі перашкаджалі працаваць. Павадыр перадаў тады справу ў комсамольскую ячэйку, а тая выключэньне адмяніла. Піонэры былі гэтым страшна нездаволены, але ніхто не здагадаўся, што можна паскардзіцца ў бюро піонэраў. *Бюро заўсёды было для піонэраў нейкай загадчанай, таемнай установай.*

Ня можа сабе вытлумачыць, што за абавязкі выконвае бюро піонэраў і піонэр-комсамолец. У атрадзе ён зьяўляецца сакратаром. За ўвесь час сваёй работы ён ніколі не зьвяртаўся ў бюро піонэраў. Гэтулькі-ж ведаюць пра бюро і іншыя піонэры, якія прысутнічалі на вузкай нарадзе піонэрактыву з прадстаўніком „Пионерской Правды“.



*Бюро адарвалася ад нас...*

### З вышыні птушынага лёту.

Чым гэта тлумачыцца?

*Бюро піонэраў ня бачыць саміх піонэраў. Яны пра іх ведаюць праз павадыра.*

Прадстаўнік раённага бюро абглядаў атрад. Ён прыходзіў, глядзеў, гутарыў з павадыром, але аб яго заключэньнях ня ведаў ні савет атраду, ні агульны збор.

Бюро піонэраў заслухоўвае сяды-тады справаздачы павадыроў атрадаў, фарпостаў, але ніколі не заслухоўвае справаздач саветаў атрадаў, прэзыдыумаў фарпостаў ці вучкомаў. Гэтыя апошнія ў сваю чаргу не адчуваюць ніякай адказнасьці перад бюро піонэраў, бо ня зьвязаны з імі і не адчуваюць іх кіраўніцтва.

Аб задачах, якія ўзьнімаюцца перад атрадамі, піонэры даведваюцца праз павадыра. Калі праводзіўся культпаход, дык аб тым, што трэба праводзіць атраду, расказаў павадыр. Ніколі ня было таго, каб рэгулярна перад правядзеньнем якойнебудзь кампаніі зьбіралі кіраўнікоў з саміх піонэраў, давалі-б ім конкрэтныя заданьні і потым правяралі-б іх, як яны гэта правялі ў сябе ў атрадах.

*Ня гледзячы на тое, што тысячу разоў абвяшчалі, што саветы атрадаў, павадыры зьвеньняў і наогул дзіцячыя органы самакіраваньня зьяўляюцца адзінымі кіраўнікамі ў атрадах, школах і г. д.—бюро піонэраў ніколі іх гэткімі не прызнавалі.* На словах ім казалі адно, а сапраўды ўсю ўладу аддавалі павадырам.

## Мы абвінавачваем бюро піонэраў.

Калі комсамольскі камітэт ня зьвязаны непасрэдна з кіруемымі ім комсамольцамі, а толькі разглядае ячэйку праз акуляры сакратара, гэткі комсамольскі камітэт вінаваціць у адрыве ад мас, што ён ня ведае жыцьця організацыі. *Вось чаму мы цяпер вінавацім бюро піонэраў, што яны ня ведаюць жыцьця кіруемых імі організацый, бо яны непасрэдна з піонэрамі ня зьвязаны.*

Калі комсамольскі камітэт адрываецца ад організацый, дык такому камітэту комсамольцы даюць па шапцы.

А чаму-ж мы, піонэры, ня можам ушчунуць бюро, якія ня ўмеюць працаваць, якія топяцца ў пратаколах і паседжаньнях, пішуць справаздачы і даклады, вядуць грашовыя справаздачнасьці, але непасрэдна не організуюць атрады на практычнай рабоце?

Калі-ж піонэры прыдуць у бюро і кінуць такое абвінавачаньне піонэрскім працаўнікам, дык над імі весела разрагочуцца, бо бюро піонэраў не адчувае адказнасьці перад піонэрскай організацыяй. Яны нясуць адказнасьць і справаздачнасьць перад комсамольскім камітэтам. *Ніводнае бюро піонэраў ні разу не зрабіла справаздачы перад сваёй піонэрскай організацыяй.* Вось чаму, калі работа не наладжваецца, піонэры ня ведаюць, куды ісьці і каму скардзіцца. Паміж бюро піонэраў і піонэрскімі атрадамі выкапана вялізная канава.

## Плююць на друк.

Хіба-ж напляваіцельскія адносіны да дзіцячага друку не даволі яскрава паказваюць той разрыў, які існуе паміж бюро піонэраў і організаванай грамадзкай думкай піонэрскай організацыі? „Піонэрскі друк—гэта для дзяцей, няхай тыя іх і чытаюць, а нам напляваць на тое, што там пішуць“,—кажуць гэтыя горакіраўнікі. Быццам дзеці іх зусім ня цікавяць.

Замест таго, каб чула прыслухвацца к голасу піонэрскага друку, які больш адкрыта, чым хто-б там ні быў, апавядае пра патрэбы і жаданьні піонэраў, бюро піонэраў лічаць за лепшае ссаць пляны работы для атрадаў з пальцаў. Замест таго, каб зараз-жа мобілізаваць свае атрады на вырашэньне пытаньняў, якія абгаварваюцца ў піонэрскім друку, і праз гэта ўтварыць жывую баявую організацыю, бюро піонэраў ломяць свае галовы для таго, каб даказаць дзецям, што конь есьць авёс.

*Піонэрская організацыя павінна прымусіць бюро піонэраў стаць жывымі кіраўнікамі. Праверым іх работу і паставім іх пад свой кантроль.*

Кожны савет атраду павінен уцяміць сабе, што ён галоўны кіраўнік свайго колектыву. А кожнае бюро піонэраў павінна лічыцца з органамі дзіцячых самакіраваньняў не як з смаркатымі хлапчукамі, а як з кіраўнікамі, якія высунуты самімі дзяцьмі.

Я. Н.

## АД РЭДАКЦЫІ.

Артыкул тав. *Я. Н.* друкуецца ў парадку абгаварэньня. Рэдакцыя „Бел. Піонэра“ чакае ад сваіх чытачоў і дзяткораў водгукаў на гэты артыкул. Рэдакцыя раіць активу кожнага атраду колектыўна абмеркаваць гэты артыкул і прыслаць у „Беларускі Піонэр“ свае думкі і заўвагі па наступных пытаньнях:

1. Ці абапіраецца бюро піонэраў у сваёй рабоце на піонэрактыў? У якой форме гэта выяўляецца? Ці скарыстоўваюцца актыўныя піонэры ў працы раённых бюро?
2. Ці бываюць прадстаўнікі бюро піонэраў у атрадах?
3. Ці дае бюро піонэраў заданьні саветам атрадаў, вучкомам? Ці правярае іх работу?
4. Ці зьбіраюць піонэрактыў для абгаварэньня асобных пытаньняў працы ў школе?
5. Як бюро піонэраў азнаямляе організацыю з сваёй работай?
6. Ці цікавіцца бюро піонэраў тымі баявымі задачамі організацыі, якія высоўваюцца ў друку?

# Абусім патроху.



Пад'ехаць да вастравоў вельмі трудна ў шмат якіх месцах: берагі вельмі крутыя, быццам сьцены цытадэлі. Індыйцы рэдка калі ад'яжджаюць ад берагу ў адкрытае мора, каб абмяняць у праходзячых міма кітабояў чарапах на адзеньне, тутунь, сьпірт і на іншыя прадметы.

Калі ў Амэрыцы зьявіўся вялікі попыт на чарапашае мяса, тады пачалася вялізарнае зьнішчэньне чарапах на гэтых вастравох кітабоямі. 700 караблёў было занята зьнішчэньнем чарапах!

У 1891 г. дасьледчык гэтых вастравоў доктар Баўэр знайшоў чарапах толькі на двух вастравох. Гэты вучоны падлічыў, што з часу адкрыцьця архіпэлагу Галапагос было вывезена адгэтуль 10.000.000 чарапах.

Галапагоская чарапаха мае ў даўжыню паўтара мэтры. Харчуецца ў пераважнасьці лісьцем кактусаў, п'е прэсную ваду з горных крыніц.

## На чарапашых вастравох.

На адлегласьці 1300 кілём. к захаду ад паўднёва-амэрыканскай рэспублікі Эквадор, у Ціхім акіяне, на экватары, ляжыць група вастравоў, вядомая пад назвай архіпэлагу Галапагос.

Галапагоскія вастравы былі адкрыты ў XVIII стагодзьдзі. Яны паступова залюдняліся індыйцамі з Эквадору і цяпер там налічваецца 400 жыхароў.

У 1834 годзе гэтыя вастравы наведаў славуты натуралісты Чарльз Дарвін. Яго ўвагу прыцягвалі вялізарныя чарапахі, якімі ў той час кішэлі вастравы. У сваіх працах Дарвін успамінае пра гэтых чарапах, каштоўных ня толькі сваім прыгожым панцырам, але таксама мясам і тлустасьцю.

Вастравы архіпэлагу Галапагос—вульканічнага паходжаньня.

Цяпер у чарапах ёсьць і другі вораг. Часта здаралася, што з кітабойных караблёў уцякалі на бераг сабакі, каты, пацукі і нават сьвіньні. Гэтыя жывёлы дзічэлі на беразе і пладзіліся. Вось яны і зьнішчаюць нямала маладых чарапах, якія толькі што вылупліваюцца з яек.

## Кулявыглядны дом.



Нядаўна ў Нямеччыне, на адной з апошніх выставак, зьвярнуў на сябе ўсеагульную ўвагу дом кулявыгляднай формы. Падгэткі дом патрэбна менш зямлі.



## ДАРОГА ПРАЗ НІАГАРУ.

Праз славуты Ніагарскі вадапад перакінута падвесная канатная чыгунка.

З саракасямі-мэтравай вышыні падае вада. І падае з такім аглушаючым рэвам, што ня кожны адважыцца вісець у кошыку над гэтым небясьпечным местам (мал. зьлева).



## ЧАТЫРОХНОГАЯ ПТУШКА.

У Паўднёвай Амэрыцы, па густых зарасьніках берагоў Амазонкі, вялізнымі зграямі гнезьдзіцца адна вельмі цікавая птушка, якую мясцовыя жыхары называюць „гоацын“.

Крыльлі і ногі гоацынаў разьвіты слабей, чым у другіх лясных птушак; лятаюць яны кепска. Маладыя-ж гоацыны асабліва цікавы тым, што ў іх на кожным крыле ёсьць па адным пальцу, узброенаму капцюрамі. Да таго, як маладая птушка апярыцца і пачне лятаць, яна ўвесь час лазіць па галінах, хапаючыся за іх ні то пальцамі ног, ні то пальцамі крыла і дзюбкай.



Падаючы на зямлю, маладыя гоацыны ізноў узьбіраюцца ўгору, чапляючыся ўсімі чатырма, „нагамі“.

## ХТО ГЭТА.

На першы погляд бадай не адгадаеш, што гэта за жывёла. Можна падумаць, што якое-небудзь дапатопнае страшыдла. У рачаіснасьці фатограф зьняў галаву стравуса ў той момант, калі той прыняў позу пагрозы.

Стравус, убачыўшы ворага, шырока расчыняе рот, чым і робіць на яго патрэбнае ўражаньне (мал. уверсе).

## ПАНЦЫРНЫ ДОМ НА КОЛАХ.

Для падарожжаў па сваіх калёніях, дзе язда не заўсёды бясьпечна, французы прыдумалі асобны панцырны аўтамобіль. У гэтым аўтамобілі нават ваконныя шыбы зроблены з шкла, якое не прабіваецца кулямі. У сярэдзіне аўтамобіля ёсьць гасьціная, сталовая, спальня, курыльны пакой, невялікая кухня, а так сама радыё і другія сучасныя выгоды.



Вожык

# Дзе і каму трэба падцягнуцца.

## „Забастоўшчыкі“.

Ангельскія вуглякопы баставалі ажно паўгода. Мы ім дапамагалі. Міжнародная салідарнасьць, значыцца. Але калі, скажам, ніжэй мы пагаворым пра „забастоўшчыкаў“ — не спачувайце гэтым забастоўшчыкам, гэта не сапраўдныя забастоўшчыкі, а вучні пятай клясы Нова-Барысаўскай сямігодкі—Капілевіч Арон і Пракаповіч Стась. Яны маюць гонар звацца „забастоўшчыкамі“ па наступнай прычыне. На лекцыі нямецкай мовы забаставалі. Ня хочуць вучыцца, і ўсё. Мала карысьці з нямецкай мовы, ды і праграма вялікая. Такую бузу ўзьнялі, што прышлося пазваць загадчыка сямігодкі, каб іх супакоіць. Як вынік—іх выключылі з школы на паўтара месяцы.

Вожык лічыць, што выключэньне вучняў са школы яшчэ справы ня вырашае.

Вожык прапануе абмяркаваць пытаньне аб забастоўцы на сходзе вучняў.




...дае кніжкі таму, хто яму падабаецца.

## „У нас усё добра“.

Зацiраюцца іншы раз дрэнныя ўчынкі. Так зробяць, што быццам усё добра. Гэтакі-ж выпадак і ў Капыльскай ячэйцы ЛКСМБ. Аб гэтым піша дзяткор А. Ландарскі.

„Яшчэ ў мінулым годзе я пісаў ў „Бел. Піонэр“ аб тым, што ў нашым атрадзе непарадкі. Ячэйка ня цікавіцца працай і нават стараецца зрываць яе. На гэты ліст было зроблена расьсьледваньне і... справу замазалі... „у нас усё добра“...

Малайцы, хлопцы, так і трэба. Мы толькі вам прышпіляем калючку Вожыка. Ганарэцеся—шчырай працай заслужылі. Але пажадана было-б, каб РК ЛКСМБ зьняла гэтую шпільку з грудзей паважанай ячэйкі, наладзіла працу ў атрадзе, і ўсё тады добра будзе.

## „Нядбайнікі“.

Мы часта робім пастановы, што будзем працаваць на „яць“! А потым.. Потым вось што. Ну... але пісаць ня будзем. Лепш паслухаем, што піша нехта М. з мястэчка Ляды, Аршаншчына.

„Наш атрад ужо даўно ўзяў шэфства над вёскай Астаповічы. Але дапамагалі толькі зразу, а потым забыліся“.

Гэтакі непарадак існуе ўжо даўно. Але што там шэфства! Плююць на яго, піонэры мястэчка Ляды. А вось тады хто-небудзь з ячэйкі будзе праходзіць міма атраду і скажа: „Во, гэта і я разумею: „добрая“ сувязь з вёскаю“. Ці няпраўда, што вы—нядбайнікі?—Праўда!

## Шкада дзяцей.

Аб тым, што дзе дрэнны павадыр—там і кепская праца, гаварылі і гавораць шмат. Аб гэтым піша і дзяткор *М. Лупнікаў.*

(Бяседавіцкі атрад, Хоцімскага раёну)

„Нядаўна ячэйка вылучыла нам новага павадыра. Думалі — праца палепшыцца. Але атрымалася

наадварот. Павадыр ня цікавіцца працай, ня мае ахвоты да яе. Мы не працуем... Мы сьпім“...

Сьпяць. Ды няхай сьпяць. А ты, ячэйка, ціханька хадзі каля атраду. Няхай сьпяць, ня будзеце іх. Малыя дзеці—шкада. Вожык шле вітань ячэйцы за тое, што яна так далікатна адносіцца да працы атраду. А як узнагароду—прышпіляе калючку ячэйцы.

### Піонэрская „протэкцыя“.

Падумаеш — протэкцыя ў піонэраў... Але-ж гэтая протэкцыя бывае, хоць і далікатнейшая. Гэта сьцьвярджаецца наступным:

„Пры Масцкевіцкім атрадзе організована бібліотэка. Піонэр, загадчык бібліотэкі, дае кніжкі толькі тым, хто яму падабаецца. Што рабіць?“

Да што-ж тут зробіш. Калючку бібліотэкару—вось што. Хай яму брыдка будзе. Дый атраду брыдка. Вылучылі-б новага бібліотэкара, якому-б ня прыходзілася прышчапляць калючкі і які-б добра працаваў. Вось наша парада.

## СІЛАЧ АДАМ.



Сілача Адам убачыў
Неяк вечарам на сцэне.
„Стану й я такім, няйначай!“
Ахапілі лятуценьні.
„Будуць мне пляскаць у ладкі,
Кожны рух лавіць вачыма“...
А каб справа была гладкай—
Трэніруецца хлапчына.
Што ні крок—дык фізкультура.
Падымае хлопец гіры.
Будзе ён перад хлапцамі,
Бы арол перад сьнігірам.
Выгінаецца на брусьсях,—
Хоча, бач, зрабіцца дужым.
Але штось Адам бялее,—
Ніжай з сілаю садзіцца.
Не зважае—на‘т сьмялее,
З бацькам рад-бы пакрапіцца!
„Выступаць пачну я скора,
Вось пачнуць тады дзівіцца!“
Раптам бачу—ну, і гора!—
Адася зьвязьлі ў бальніцу.
Шмат бяды тут можа стацца
Бо здароўю ня спрыяе.

* * *

Фізкультурай так займацца
Я нікому з вас ня раю.



# У ПАДЗЯМЕЛЬНЫМ ЛЕСЕ.

Турыстычнае апавяданьне **Э. Мартэля.**

**Кос і яго падзямельныя пячэры.—На глыбіні 200 мэтраў.—У каменным падзямельным лесе.—Па падзямельнаму возеру ў лодцы.—Ноч у бяздоньні зямлі.**

Хто вандраваў па Паўднёвай Францыі, асабліва ў тэй частцы, якая называецца Косам, што ляжыць на поўнач ад гораду Тулузы, той, бясспрэчна, быў зьдзіўлены беднасьцю прыроды ў гэтай мясцовасьці.

У некаторых месцах на цэлыя дзесяткі кілёмэтраў цягнуцца шэрыя вапняковыя ўзгоркі і пяскі. Камяністая глеба не пакрыта травяністым дыванам, і вельмі рэдка можна спаткаць тут якое-небудзь дрэўца.

Аднак, і гэтая сумная і бясплодная мясцовасьць мае сваю прыцягальную сілу для турыстых. Гэта—краіна падзямельных пячэр і гротаў. Дажджавая вада лёгка прасачваецца праз вапняную глебу і вымывае пад зямлёю вялізарныя пустэчы.

Часта на дне такіх пячэр утвараюцца цэлыя вазёры і рэкі, якія цякуць пад зямлёй і прамываюць у вапняку падзямельныя лёхі.

Падзямельныя пячэры маюць сваю прыгожасьць. Хто ня чуў аб пекнаце славутага Адэльгбэргскага гроту ў Аўстрыі? Хто ня чытаў пра Мамантавую пячэру ў Амэрыцы?

Але прыгожасьці Адэльбэргскага гроту і Мамантавай пячэры ня могуць быць параўнаны з пекнатою шмат якіх падзямельных пячэр Паўднёвай Францыі. Тут шмат якія пячэры перавышаюць па сваёй велічыні абедзьве азначаныя вышэй пячэры і цягнуцца іншы раз пад зямлёю на цэлы кілёмэтр. У іх лёгка можна заблудзіцца і згубіць дарогу да выхаду.

Пячэра Коса даўно цікавіла мяне, і ў мінулым годзе, улетку, я з двума таварышамі—Армандам і Гоцье—парашыў дасьледваць адну з найменш вядомых пячэр у ваколіцах мястэчка Даржылян.

Захапіўшы з сабою мэтраў 100 вяраўчаных драбінак, дзьве драўляныя драбіны мэтраў па дзесяць, мэтраў 300 моцных вяровак, палявы тэлефон, невялічкую брэзэнтавую лодку, фотаапарат і іншыя прылады, мы накіраваліся ў наша нязвычайнае падзямельнае падарожжа.

Мы пераначавалі ў вёсцы, што знаходзіцца недалёка ад пячэры. У наступны дзень, наняўшы падводу, мы з усімі прыладамі паехалі пад пячэру.

Адзін мясцовы селянін, які добра ведаў, дзе знаходзіцца абранае намі бяздоньне, узяўся нас праводзіць. Праз гадзіну мы былі ўжо ля ўваходу ў пячэру.

Між іншым, гэта быў не „ўваход“, а, лепш кажучы, „дзірка“, якая мела некалькі мэтраў шырыні. Дзірка гэта знаходзілася ў невялічкай нізіне. Кілёмэтры праз два адгэтуль, у нізіне, цякла невялічкая рэчка.

Падышоўшы асьцярожна да краю бяздоньня, мы паглядзелі ўніз. Сьцены гэтага бяздоньня ішлі амаль адвесна. Я кінуў у бяздоньне камень. Праз некалькі сэкунд зьнізу пачуўся гук глухога удару. Дно пячэры было, напэўна, на глыбіні сотняў мэтраў.

Мы пачалі рыхтавацца да спуску. Зьвязалі вяроўчаныя драбіны разам, умацавалі недалёка ад бяздоньня два слупы, да якіх прывязалі вяроўку. Да гэтай вяроўкі прывязалі драбіны і пачалі іх апускаць у бяздоньне.

Калі драбіны павіснулі ў цёмным бяздоньні. Арманд, які пажадаў першым спускацца, абвязаўся вяроўкамі, палажыў у кішэні некалькі сьвечак, запалкі, паўбутылкі рому і пакет з магніем і палез у дзірку.

Мы з Гоцье асьцярожна апускалі вяроўку, да якой быў прывязаны Арманд. У той-жа час я трымаў каля вуха трубку тэлефону, які ўзяў з сабою Арманд. Пры ўсялякай небясьпецы Арманд павінен быў зараз-жа званіць нам, і мы павінны былі цягнуць тады яго наверх.

Прайшло некалькі хвілін.

— Я дайшоў да невялікага выступу,—пачуў я ў тэлефон голас Арманда,—затрымайце пакуль што вяроўку. Я трохі адпачну і прывяжу драбінку.

Мы закруцілі вяроўку за слупок.

У тэлефон пачуўся зноў голас Арманда:

— Адпускайце вяроўку, буду зноў спускацца.

Мы зноў пачалі патроху апускаць вяроўку. Так прайшло яшчэ некалькі хвілін. Нарэшце я пачуў голас Арманда:

— Дайшоў да пячэры. Стаю на дне. Запаліў сьвечку. Наколькі дазваляе бачыць кругом сьвет ад сьвечкі, пячэра мае ня менш 50 мэт. вышыні. Пра велічыню меркаваць цяжка, але, мусіць, гэта вельмі вялікая пячэра. Адпускайце больш вяроўкі. Я пайду далей.

Голас замоўк. Мы адпусьцілі яшчэ мэтраў 50 вяроўкі.

— Ну, што там чуваць, Арманд,—запытаўся я ў тэлефон.

— Выдатная рэч! Я стаю сярод найцікавага каменнага лесу. Тут цудоўныя сталакціты і сталагміты... Іду далей, давайце вяроўку...

Мы пачалі адпускаць вяроўку. Усе 300 метраў вяроўкі падыходзілі да канца.—Дайшоў да падзямельнага возера,—пачуўся голас Арманда ў тэлефон. Праз некалькі хвілін зноў загаварыў Арманд:

— Варочаюся назад, выбірайце вяроўку.



**Падзямельны каменны лес з сталакцітаў і сталагмітаў.**

Мы пачалі цягнуць вяроўку з бяздоньня. Хвілін праз 20 Арманд быў ужо блізка ад паверхні і яго галава паказалася з бяздоньня. Яго вочы гарэлі ад надзвычайнай радасьці.

Мы кінуліся к Арманду, каб памагчы яму вылезьці на паверхню.

— Ну, што,—запытаў я яго,—варта спускацца ў пячэру.

— О, вы нават ня можаце ўявіць сабе ўсёй цікавасьці! Я ў захапленьні... Да гэтага часу мне не даводзілася бачыць нічога падобнага, хоць я і быў у Адэльбэргскай пячэры. Пад нашымі нагамі знаходзяцца такія дзівы, якіх нельга апісаць простымі словамі... Беласьнежныя каменныя пальмы, найцікавыя сталакціты рассыпаліся ў пячэры тысячамі... Я яшчэ й цяпер не магу апомніцца ад такога багатага ўражаньня...

Пасьля абеду, на краю бяздоньня, мы пачалі абмяркоўваць пытаньне, што рабіць далей.

Гоцье гарэў ад жаданьня ўбачыць падзямельныя цуды, аб якіх не пераставаў гаварыць Арманд. Але дзень хіліўся к вечару. Мы парашылі вярнуцца ў вёску, а назаўтра раненька зноў прыйсьці сюды і спусьціцца ўсім траім у пячэру. Усе свае прылады мы пакінулі ў палатцы, якую зрабілі тут у даліне, недалёка ад бяздоньня. Адзін селянін згадзіўся вартаваць палатку.

Мы вельмі дрэнна спалі ноч. Кожнаму хацелася найбарджэй папасьці ў падзямельны каменны лес. Раніцою мы ўсе былі ўжо на нагах, выпіўшы борзьдзенька па шклянцы кофе, хутка пабеглі к палатцы.

Мы запрасілі двух сялян дапамагчы нам спусьціцца ў пячэру. Першым спусьціўся зноў Арманд, другім Гоцье, потым я спусьціў у пячэру нашу складаную брэзэнтавую лодку для плаваньня па падзямельнаму возеру, нарэшце, скрынку з харчамі. Я ўзяў з сабою фото-апарат, магнію і асьцярожна, абкручаны вяроўкай, якую трымалі двое сялян, пачаў спускацца.

Дзіўнае адчуваньне заўладала мной, калі нада мною схаваўся апошні кавалачак сіняга неба ўверсе. Асьцярожна абмацваючы нагамі вяраўчаныя драбінкі, я павольна спускаўся ў бяздоньне.

Нарэшце, я пачуў зьнізу, аднекуль з далёкай глыбіні глухія галасы Арманда і Гоцье і праз некалькі хвілін ужо быў на дне пячэры. Арманд і Гоцье стаялі з запаленымі сьвечкамі.

— Хадзем хутчэй, я пакажу вам сталакцітавы лес,—сьпяшаўся Арманд.

Ён пацягнуў нас кудысьці ў чорную цемру. Падлога пячэры была трохі вільготная і спускалася ўніз. Здалёк чуваць былі гукі ад падаючых кропель.

Праз пяць хвілін хады па цёмным калідорам мы прышлі ў вялізарную пячэру, і, сапраўды, цікавае відовішча разгарнулася перад намі.

Безьліч пекных сталакцітаў, быццам вышліфаваныя з сланёвай касьці, спускалася з столі пячэры. Пад імі цэлы лес каменных дрэў—сталагмітаў—дзіівў сваім нязвычайным выглядам. Адны сталагміты былі падобны на тоўстыя пальмы, другія на шліфаваныя і ўпрыгожаныя калёны...

Мы ўсе ўтраіх як быццам анямелі ад такога дзіўнага хараства прыроды.

Цэлыя тысячагодзьдзі прырода працавала для таго, каб утварыць гэтыя найцікавыя прыгожасьці. Мільярды вадзяных кропель прыносілі сюды распушчаную вапну і адкладвалі яе на сталакцітах. Доўгія тысячагодзьдзі гэта хараство было схавана ад чалавечага вока. І вось мы першыя ўбачылі яго...

(*Працяг будзе*).

# СТАРОНКА ФОКУСАЎ.

### Куды зойдзе запалка.



Павадыр паказаў піонэру вось гэтую фігуру і запытаў:

— Калі ты ўваткнеш канец завостранай запалкі ў якое-небудзь месца той лініі, якая тут завіваецца, і будзеш вадзіць па гэтай лініі, дык куды ты прыдзеш.

— Прыду,—адказаў піонэр,—альбо ў самую сярэдзіну фігуры, альбо выйду к яе краю, гледзячы на тое, у які бок пачаць весьці запалку.

Хіба-ж бы вы адказалі інакш.

Але мала адказаць,—трэба праверыць. Вось папрабуйце.

### Чыгунка.

(*Гульня*).

Усе ўдзельнікі становяцца ўрад адзін за другім. Той, хто стаіць наперадзе, прадстаўляе сабой паравоз. Па знаку кіраўніка „цягнік“ рушыцца. Паравоз павінен рухацца то борзда, то павольна, і ўсе „вагоны“ павінны ехаць таксама, як ён.

Пасьля некаторага часу кіраўнік крычыць: „мост рушыцца“. Усе разьбягаюцца, а кандуктары, якія павінны быць заранеей выбраны, бягуць за ўдзельнікамі гульні.

Гульня канчаецца, калі кандуктары пераловяць усіх удзельнікаў гульні.

### Дзіўны малюнак.

Бываюць абманы зроку—вельмі фокусныя. Здараецца на белай сьцяне ці столі, дзе нічога не намалявана, бачыць вялікі партрэт ці іншы які-небудзь малюнак, іншы раз нават расфарбаваны.

Вось, напрыклад, паспрабуйце прарабіць гэткі фокус. Палажыўшы перад сабой вось гэты дзіўны малюнак, глядзі ўважліва ў адзін пункт яго, ня зводзячы вачэй (прыкладна, у вока, губы, нос). Глядзі і лічы праз сябе: „адзін, два, тры“... Калі налічыш да ста, пераводзь вочы на столь (калі яна абклеена белаю папераю) або на сьцяну і неўзабаве (праз некалькі сэкунд) убачыш там у павялічаных памерах той-жа самы малюнак, але толькі ня чорным па беламу намаляваны, а белым па цёмнаму. Спачатку зьявіцца цёмная квадратовая рамка, а потым усьлед за ёй вырысуецца і малюнак. Малюнак хутка расплываецца і зноў зьявіцца другі. Так можа зьяўляцца ён некалькі разоў.



# ЖЫЦЬЦЁ ДЗЯЦЕЙ ЗА МЕЖАМІ.

*(Працяг).*

## Конгрэсы школы і конфэрэнцыі.

З сьнежня па люты ў шмат якіх замежных краінах будуць праведзены піонэрскія конфэрэнцыі ці школы.

У Чэха-Славаччыне адбудзецца ў апошніх лічбах сьнежня трохдзённы кангрэс, які афіцыйна паложыць пачатак існаваньню піонэрскага Савету Чэха-Славаччыны. Потым адбудзецца конфэрэнцыя павадыроў і, нарэшце, васьмідзённая школа для піонэраў.

У Нямеччыне будзе шырокая конфэрэнцыя павадыроў, у якой прымуць удзел комуністыя, пэдагогі і прадстаўнікі розных рабочых організацый.

Нямецкая піонэрская організацыя перажыла за апошні час крызіс. Гэты крызіс тлумачыцца тымі памылкамі, якія былі зроблены саюзам піонэраў. Конфэрэнцыя павінна будзе разгледзець гэтыя памылкі.

У лістападзе ў шмат якіх акругох праводзіліся раённыя школы падрыхтоўкі павадыроў.

Тыднёвыя школы будуць таксама праведзены ў Швэцыі і Норвэгіі.

## Узмацняйце інтэрнацыянальную сувязь.

*Ужо скончыўся 28 год, прышоў 1929. Паглядзім, што мы зрабілі за гэты год па ўзмацненьню нашай інтэрнацыянальнай сувязі і шэфства.*

Ці пісалі мы за межы лісты? Ці дапамагалі нашым замежным таварышом? Ці сачылі за іх барацьбой і работай?

У чужаземны Аддзел ЦПК за апошні час стала дасылацца менш допісаў, чаму гэта? Зараз-жа ўва ўсіх шэфаў ёсьць такія падшэфнікі, з якімі яны могуць завязаць жывую сувязь.

Давайце зробім гэта, каб к IX МДТ, які ўжо не за гарамі, завязаць моцную сувязь з замежнымі таварышамі і на справе дапамагаць ім у іх працы.

Дасылайце лісты на новы адрас ЦПК.

Масква, 21. В. Трубецкай, 16 АВК для Цэнтральнага Піонэр. Габінэту.

Пішэце аб сваёй рабоце, аб удзеле ў перавыбарах саветаў, аб культпаходзе, суботніку ў дапамогу школе і г. д., бо замежныя таварышы скардзяцца, што яны не атрымліваюць адказаў.

*Чужаземны аддзел ЦПК.*

❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖

# Люблю цябе, школа дарагая.

*Люблю цябе, эх, школа дарагая!*
*Ад сэрца шчырага цябе люблю, люблю...*
*Зімовы дзень, як сьвечка дагарае,*
*Халодны вечар атуліў зямлю.*
*І я стаю на доўгім калідоры—*
*І тут і там бясконцы ціхі шум.*
*На бледных вокнах белыя вузоры,*
*У галаве не пералічаш дум.*
*Званок. Усе сядзім мы ціха, ціха,*
*І слухаем настаўніка, раскрыўшы рот.*
*Гляджу цераз вакно—завеі, віхар,*
*І нешта ўсё сьпявае тэлеграфны дрот.*
*Мы слухаем пра тое, як калісьці*
*У змаганьні палеглі барацьбіты.*
*Ізноў гляджу ў вакно, як вецер сьвішча...*
*Пералістаю я цікавыя лісты*
*І слухаю пра Коласа і пра яго Сымона,*
*Як быццам бачу скрыпку... Струн я чую звон,*
*Здаецца мне—вось і карчма, і Шлёма.*
*У карчму ўваходзіць хлопчык, то—Сымон.*
*Званок. І я ізноў на калідор выходжу.*
*Ізноў я чую той-жа самы шум.*
*Бягуць гадзіны. Хутка час праходзіць...*
*На вуліцу выходжу—ціш і сум...*
*І шкода мне—бо я апошні год у школе.*
*Эх, мілая, цябе мне шкода пакідаць!*
*Але я выйду у другое поле,*
*Дзе кветкі сьцелюць сонечную гладзь...*
*Зімовы дзень, як сьвечка, дагарае,*
*Даўно ўжо вецер атуліў зямлю.*
*Люблю цябе я, школа дарагая,*
*Ад сэрца шчырага цябе люблю, люблю...*

**А. Розна.**

---

Рэдколегія: БАЛІЦКІ А., БРЫГНЕВІЧ Г., ПЯКАРЧЫК А., СЬЦЯПАНАЎ Х., ЯКІМОВІЧ А.

Адказны рэдактар А. ПЯКАРЧЫК.



# ЗІМОЮ —

УСЕ НА САНКІ,



НА ЛЫЖЫ,





НА КАНЬКІ!

Друкарня „БДВ“. Заказ № 1174. У ліку 1650 экз. Галоўлітбел № 561.